

Самавук Санька Грамацкі→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Пра Забужжа→12

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3063) Год LX | Беласток, 25 студзеня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# XVI Гвязда і калядка



Традыцыйна ўжо калядкай «Неба і зямля» ў выкананні ўсіх удзельнікаў пачалася XVI Прэзентацыя калядных калектываў «Гвязда і калядка», арганізаваная Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Такім чынам пачаўся новы год цыкла культурных мерапрыемстваў, падрыхтаваных Таварыствам. Зала Гарнізоннага клуба ў Беластоку запоўнілася да краёў. З больш за трыццаці выступаючых груп са шмат якіх мясцовасцей паўднёва-ўсходняй Беласточчыны найбольш эмоцый даставілі дзеці, нават трох- і чатырохгадовыя, якія з хваляваннем працягваюць беларускія калядныя традыцыі.

Многія з калектываў прадставілі сябе надзвычай прафесійна, як, у прыватнасці, «Рэха пушчы» з Гайнаўкі і «Куранты» з Бельска-Падляшскага. Іх кіраўнік **Аліна Негярэвіч** яшчэ перад выступам сказала:

— Для нас кожнае выступленне з’яўляецца важнай падзеяй. Выступленні — гэта сутнасць функцыянавання нашага хору. Аднак канцэрт калядак — спецыфічны, таму што ён звязаны з Калядамі, і пануе на ім святочная атмасфера, якая перадаецца і гледачам, і ўдзельнікам хору. У нашым рэпертуары ёсць старыя калядкі, і тыя ў больш сучасных апрацоўках, Тое, якія калядкі заспяваем падчас канцэрта, залежыць ад аўдыторыі і месца. Калі гэта канцэрт, які спасылаецца на абрадную традыцыю, тады і нашы калядкі больш традыцыйныя. На іншых канцэртах мы выконваем таксама тыя ў больш сучасных апрацоўках: у чатырохгалоссі, шматгалоссі, гучанне якога зусім іншае.

**Марыюш Харужы**, лідар гурта «Гай», а падчас прэзентацыі адказны за гук канцэрта:

— Такі агляд вельмі важны, таму што наша беларуская меншасць, і не толькі наша меншасць, хутка асімілюецца, усё больш і больш знікаюць традыцыі. Мы імкнемся развіваць іх, прымаючы ўдзел у такіх ініцыятывах. Ужо не магу ўявіць сабе каляднага перыяду без гэтага канцэрта. Галоўнае, каб не пагасла традыцыя калядавання, асабліва сярод маладых людзей. Такім чынам паказваем нашым дзецям як выглядала калядаванне. Хай гэтая традыцыя нясецца як мага даўжэй.

Надзейна з’явіліся на беластоцкія прэзентацыі 11 студзеня выканаўцы з Вясковага дома культуры ў Рыбалах пад наглядам вялікай прапагандысткі беларускай культуры Лідзіі Мартынюк. Вядомыя таксама з Фестывалю беларускай песні, співаючыя разам рыбалаўскія суседкі-пенсіянеркі **Валянціна Харытанюк** і **Ірэна Гуль** прызналіся:

— Співаючы калядкі так па-старому, чалавек інакш, мацней перажывае свята. Цяпер маладыя людзі співаюць іх іначай, і некаторыя пад іх нават танцуюць. Мы былі на «Гвяздзе і калядцы» і ў мінулым годзе. Співаем старыя песні, а не мадэрнізаваныя. Калядавалі мы ў святочны час у Заблудаве, а цяпер хочам паказацца і ў Беластоку. Традыцыя калядавання, па меншай меры ў нас, яшчэ моцна трымаецца. Кожны год мы ідзем з гвяздай і калядкамі па вёсцы.

Вядома, не магло быць выступаў без гвяздаў. Усе рукадзельныя. Адны ўражвалі сваёй прастатой, іншыя — багаццем задум. Некаторыя з рухомымі канструкцыямі, з упрыгожаннямі з паперы і іконкамі Раства Хрыстова.

— Наша гвязда ўзнікала вельмі доўга. Яе выкананне патрабавала шмат працы. Дапамагалі ў яе стварэнні і дзеці, і дзядулі. Усе ўклалі ў яе свае сэрцы, — не хаваў гонару спадар Марцін, які прыйшоў з дачкой і вучнямі Непублічнай пачатковай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія. — Наша гвязда — традыцыйная, аклееная папяровымі выцінанкамі і ўпрыгожаннямі з каляровай паперы. Рамка драўляная, уся круціцца, прыводзіцца ўручную.

У сваю чаргу, з больш сціплай гвяздай выступіла «Сямейнае трыо і дзеці» з Макаўкі. Матушка **Анна Пятроўская**, адна з выканаўцаў гэтага калектыву, штодзень журналістка меншаснай рэдакцыі Радыё Беласток распавяла «Ніве»:

— Наша гвязда малюсенькая. Яе зрабіў муж спецыяльна для дзяцей, каб была лёгкай, каб дзеці бачылі, што калядуецца не з яслямі, але з іконай або з гвяздай. Калі ідзем усёй сям’ёй калядаваць у царкву, ці, як на Каляды, з’язджаемся да бацькоў, дзеці, каб атрымаць падарунак, павінны праспяваць калядку. Акрамя таго трэба пахваліцца бабулі якую мы ўмеем новую калядку. Калі мы ў хаце разам, тады вывучаем калядкі. Гэта, перш за ўсё, праведзены разам час. Ніхто з нас не сядзіць асобна, глядзеўшы тэлевізар, ноўтбук або планшэт. Калядкі яднаюць нашу сям’ю.

Маладыя ўдзельнікі прэзентацыі не сумняваліся ў тым, чаму співаюць калядкі, як напрыклад Дыяна, Наталля і Сымон з гайнаўскай «двойкі» і «шасцёркі», якія выконвалі калядкі пад апекай Веры Масайлы. Дыяна прыняла ўдзел у аглядзе БГКТ ужо другі раз:

— Калядкі співаем на хвалу Богу, Ісусу Хрысту, які нарадзіўся для нас даўным-даўно ў Віфліеме, каб не забыць гэты цуд.

Наталля співала на «Гвяздзе і калядцы» ўпершыню. Тым не менш, не было ў яе страху перад сцэнай:

— Я не баюся, таму што досыць часта выступаю пад наглядам пані Масайлы таксама на конкурсах мастацкага чытання.

У **Лукаша Юрчука** з гайнаўскай «шасцёркі» і гурта «Званкі», які працуе пры мясцовым доме культуры, не было ніякіх сумненняў:

— Калядаваць проста файна.

Дадаў:

— Так на вуліцы то я яшчэ не калядаваў, але хачу.

**Айцец Пётр Пяткевіч** з беластоцкага прыхода Усіх Святых успамінаў нам пры нагодзе прэзентацыі пра калядаванне ў праваслаўнай традыцыі:

— Калядуючы, нясем добрую вестку пра нараджэнне Збаўцы, дзелімся гэтай радасцю з іншымі: сям’ёй, блізкімі і ўсім светам, як тыя пастушкі і анёлы, якія першыя ўслаўлялі Новапароджанага. І мы за сімвалічнай віфліемскай зоркай кіруемся, вясціўшы добрую навіну.

Адзначыў:

— Праваслаўе ўстойлівае да духу новага свету. У парафіях нашай епархіі традыцыі калядавання захоўваюцца. Часам гаснуць, але адраджаюцца. У кожным беластоцкім прыходзе калядуе моладзь з праваслаўных брацтваў, у некаторых нават па некалькі груп. Я чуў, напрыклад, што ў Свята-Духаўскім прыходзе выбіраецца калядаваць аж шэсць груп. Едучы ў гэтым годзе на Каляды ў Гайнаўку, я бачыў у кожным сяле каляднікаў, — у Трасцянцы, Нарве, Навасадах, Дубінах... Так, традыцыя жывая і перадаецца з пакалення ў пакаленне. Гэта можна ўбачыць і на беластоцкім аглядзе. Заўсёды ёсць гурты з найменшымі дзеткамі. Традыцыя калядавання, безумоўна, будзе працягвацца.

**Васіль Сегень**, віцэ-старшыня Галоўнага праўлення БГКТ, адкрываючы сёлетнюю «Гвязду і калядку», успамінаў:

— Калядаванне — старажытны, язычаскі звычай, які быў прыняты хрысціянствам і захоўваецца шмат стагоддзяў. Тое, што абрад жывы ў народзе, вы ўбачыце і на гэтай сцэне.

Пры нагодзе паінфармаваў ён аб сёлетніх элімінацыях да XXII Агульнапольскага фестывалю беларускай песні. І так раённыя адборачныя конкурсы пройдуць у Сямятычах — 24 студзеня, у Дуброве-Беластоцкай — 25 студзеня, у Беластоку — 1 лютага, у Бельску-Падляшскім — 7 лютага, у Гайнаўцы — 8 лютага. Цэнтральныя элімінацыі будуць праходзіць у Гайнаўскім доме культуры 15 лютага, а гала-канцэрт запланаваны ў зале Падляшскай оперы і філармоніі на 19 лютага. Білеты на гала-канцэрт ужо можна купіць у сядзібе ГП БГКТ.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Вайна з кнігамі

Ісламскі фундаменталізм ваюе зараз супраць усёй еўрапейска-амерыканскай прасторы, заходні свет імкнецца стрымліваць ісламскіх тэрарыстаў, Расія вядзе захопніцкую вайну на ўкраінскай тэрыторыі, а Украіна адпаведна — абарончую. У Беларусі нібыта знешні мір. Але тут апошнія гады абвешчана прыхаваная вайна. Вайна супраць... кніг. Бедны Францішак Скарына! Калі ён падарыў беларускаму народу першую друкаваную кнігу на старабеларускай мове, то напэўна нават у свой век і падумаць не мог, што праз пяцьсот гадоў на яго радзіме будзе ісці такое паляванне на кнігі надрукаваныя на мове тытульнай нацыі. З кнігамі ў сённяшняй РБ змагаюцца нібыта з тэрарыстамі. І амаль кожнае выданне, дзе ёсць хоць намёк на крытыку цяперашняй улады, можа трактавацца як экстрэмісцкае альбо такое, якое дыскрэдытуе дзяржаву.

Разграміўшы ў час і пасля Плошчы-2010 палітычную апазіцыю, дзяржава працягнула „паляванне на ведзьмаў” — прадстаўнікоў друкаванага слова. Летам 2012 года кнігараспаўсюдніка Алеся Яўдаху прызналі вінаватым у нібыта незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці і пакаралі паводле артыкула Крымінальнага кодэксу вялізным штрафам. Цяпер вось праз падатковую інспекцыю абклалі такім агромністым штрафам выдавецтва „ЛогвінаЎ”, што яно можа спыніць сваё існаванне і дзейнасць. Так і скача на язык само па сабе крылатае выслоўе літаратурнага героя расійскага класіка: „Чтоб зло пресечь — собрать бы книги все да сжечь”. Але тое было ў Грыбаедава ў першай палове дзевятнаццатага стагоддзя. А зараз у самым разгары ўжо дваццаць першае. І такая фамусаўшчына характэрная для ўсіх рэгіёнаў Беларусі. Сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, якія занесены ў спіс „няправільных”, у дзяржаўных установах усюды адмяняюцца, знайсці памяшканне для прэзентацыі беларускамоўнай кніжкі — вялізная праблема.

На мяжы ўвага да кніжак з боку мытнай службы звышпільная. Самым мытнікам да гэтых кніжак справы няма, ім усё роўна, што ў галаве чалавека і які змест кніжкі, што ў яго торбе. Але відавочна, што яны мусяць выконваць загад спецслужбаў, для якіх кожная беларуская кніжка нібы бомба. За апошні час дагляд грамадскіх актывістаў і палітыкаў, якія перасякаюць мяжу, дасягае паранаідальнага характару. Днямі гарадзенскіх актывістаў трымалі некалькі гадзін на мяжы толькі з-за таго, што ў адной з торбаў знайшлася адна (!) кніжка мемуараў Станіслава Шушкевіча. Да гэтага забіралі кніжкі на мяжы ў Таццяны Равякі, Паўла Севярынца, Зміцера Дашкевіча, іншых вядомых у краіне людзей. Куды ж гэта варта — калі кніжкі Алеся Бяляцкага, Зянона Пазьняка, ці тых жа Севярынца з Дашкевічам, трапяць у народныя масы! Гэта ж будзе падрыў усёй дзяржаўнай магутнай сістэмы, усе высілкі вынаходлівых дармаедаўідэолагаў з ветрам пойдуць.

Сумным прыкладам змагання з усім беларускім стаў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт, які яшчэ носіць імя Янкі Купалы, дзе працягваюць звальняць беларускамоўных выкладчыкаў, якія да таго ж і кніжкі пішуць яшчэ. Ужо няма ў горадзе над Нёманам колішняга адыёзнага кіраўніка вобласці Сямёна Шапіры, а звальненні па так званым спісе яго імя няўхільна працягваюцца. Відавочна, што не былы „губернатар” складаў гэты спіс. Чарговыя асобы, якія не будуць працаваць у купалаўскім універсітэце — гэта Святлана Куль і Генадзь Семянчук. З імі адміністрацыяй універсітэта напросту не падоўжаны працоўныя кантракты. Не даспадобы палкоўнікам плашча і кінжала гістарычныя працы навукоўцаў. „Зачыстка” іншадумцаў працягваецца.

Толькі змагацца з кнігамі, пісьменнікамі ды гісторыкамі — сабе даражэй выйдзе. Дзе тыя прымітывы і цемрашалы, што ў савецкі час цкавалі выбітных пісьменнікаў, дысідэнтаў, пераследавалі іх, выжывалі з дзяржавы?! Іх імёны ніхто нават не ведае, косці даўно згнілі ў зямлі пад помнікамі з чырвонымі зоркамі, а душы мучацца ў вечным пекле. А таленавітых людзей, якія пісалі праўду, змагаліся за праўду, пераследаваліся за праўду, ведаюць, шануюць і будуць помніць праз стагоддзі...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Залатоўка ў лужыне



У мінулую суботу патэлефанавала мне сардэчная прыяцелька Міруня, каб сказаць, як гэта жанчына, аб надзвычай важным для яе выпадку — такім менавіта, што толькі што замачыла ў лужыне абутак. «Ого! — падумаў я, гледзячы з агідай на секучы па аконным шкле дождж. — Зараз замочыць і другі бот!» І гэта здарылася. Праз некаторы час я пачуў у трубцы яе ўзлаваны крык. Значыць, памачыла! З гэтага здарэння я выснаваў такі закон — назавем гэта Міруніным законам: хто пападае ў лужыну адной нагой, трапіць туды і другою. Тым больш, што цяпер — зіма. Летам — іначай, тады, магчыма, сціснуць маразы. Няма нічога больш смешнага, чым слізгацца ў сандалях на замарожаных лужынах. От, разбоўтаўся клімат Зямлі, то і людзі сышлі з розуму. Такім чынам, вясной мы будзем хадзіць пад шолах лісця, а восенню рваць чарэшні. Тым часам, аднак, я жадаю Міруні здароўя. Таму што змочаныя зімою дзве нагі гэта не пікнік. На шчасце, яна паставілася да свабёй прыгоды з прагматычнай умеранасцю: «Ногі як ногі, высахнуць, — уздыхнула ў трубку. — Боцікаў толькі шкада!»

Калі б Уладзімір Пуцін сустрэўся з Міруніным правам, перш чым уступіцца адной нагой у крымскую лужыну, можа падумаў бы перад чарговым крокам. Але не падумаў пра гэта, і ўступіўся. Але ў значна больш шую і вельмі брудную лужыну. Назавем яе нязбытнай імперскай марай. Цікава, што «заўздыхаліся» па ёй амаль усе расіяне, і цяпер ледзь дыхаюць. Але ж народ упарты! Смаркаецца, чхае гучней, чым «бяспанскія» гарматы на Усходняй Украіне, але вылезці са сваёй лужыны і не думае. І не шкада людзям чаравікаў! Незалежна ад таго грамадзянскія яны, ці ваенныя.

Боўтаюцца расіяне ў сваёй лужыне, боўтаюцца, аж расхлюпаталася ім у мазгавешках. Не ўва ўсіх, але, бадай, ці не ў большасці. Доказам гэтаму з'яўляецца змяненне ў расійскім заканадаўстве аб дарожным руху. У адпаведнасці з новымі палажэннямі асобам з ампутаванай канечнасцю (нават калі яны раней ездзілі з пратэзам і адаптаваным да іх інваліднасці транспартным сродкам) і ростам меншым чым 150 см прыйдзецца адмовіцца ад кіравання аўтамабілем. Але не толькі гэтая катэгорыя вадзіцеляў ахапіла разбоўтанае глупства расійскага заканадаўства. Забарона ваджэння распаўсюджваецца на кожнага грамадзяніна, які паказвае «расстройства асобы». Наколькі я памятаю, у мінулы перыяд хрушчоўска-брэжнеўскай крывадушнасці ўсіх насмешнікаў адпраўлялі ў псіхушку. Так як яны лічыліся «расстроенымі». Спазналі гэта многія расіяне, у тым ліку Салжаніцын і Гросман. На жаль, неўзабаве апусцелыя месцы ва ўціхамірвальнай кашулі зоймуць трансвестыты, фетышысты, эксгібіцыяністы, клептаманы, гульцы. Гэтак прынамсі можна вывесці з інтэрпрэтацыі новага закона. У адпаведнасці з ім, гэта адзінкі «расстроеныя», што пазбаўляе іх права ў якасці вадзіцеляў і разважных грамадзян. Але не толькі іх, але і жанчын з маленькімі грудзьмі (так!) і мужчын з марным шчаціннем (так!).

Расійскія ўлады абгрунтоўваюць увядзенне новага закона рэзкім ростам колькасці дарожна-транспартных здарэнняў. Паводле іх, за большасць сутыкненняў, калі не ўсе, адказваюць «расстроеныя» асобы, што вынікае з жалезнай логікі новага закона, які ў абавязковым парадку выключае іх з дарожнага руху. Гэта азначае, што кожны злачынец з'яўляецца «расстроенай» асобай. Гэта яшчэ адзін доказ расійскага разбоўтання. Мяркуючы па гэтай логіцы ўлад, безаварыйна ездзяць толькі нармальныя грамадзяне. Нават калі яны ездзяць у нецвярозым стане. І нават калі б абношваліся з вусішчамі і выпіналі наперад поўныя грудзі, такім чынам спрычыняючыся да аварыі, і так дэканстыруючы сваю ўтоеную заклапочанасць. Такая, вось, логіка ўлады. Толькі што няма ні грошыка сэнсу ў ёй.

І калі мы гаворым пра грошык, то нават калі памножыць яго на 100, у Польшчы хапіла б, каб купіць трошкі сухога корму для сабак. Як мае да гэтага паставіцца Станіслаў Шушкевіч, абраны народам на першых свабодных выбарах лідарам Беларусі, які атрымлівае ад беларускай дзяржавы штомесячную пенсію вартасцю жменькі сухога корму? Ой, увалiліся гордыя беларусы абуткам у лукашэнкаўскую лужыну. І нездарова, і абутку шкода.

Мірaслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Узнагарода з беларускім парогам

Нядаўна па запрашэнні аўтараў штотыднёвай праграмы Радыё Беласток «Падарожжа ў культуру» прыняў я ўдзел у падвядзенні вынікаў мінулага года на Падляшшы, у асноўным у беластоцкай культуры. У эфіры мы гутарылі, між іншым, аб літаратуры, у тым ліку гадавой літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага, заснаванай прэзідэнтам горада Беластока. Раздумвалі мы, хто мог бы быць вылучаны за кнігу, выдадзеную ў 2014 годзе. Заяўкі на прэмію (заявіць можа кожны) разглядае Капітул — члены якога прызначаюцца штогод з ліку прадстаўнікоў асяроддзя літаратурных крытыкаў і пісьменнікаў. Капітул прадстаўляе спачатку спіс намінацый, а затым з намінаваных кніг вылучае кандыдатаў на прэмію. На падставе гэтага меркавання ўправа горада Беластока дае рашэнне аб яе прысуджэнні. Згодна рэгламенту, прэмія прысуджаецца творцам, якія «звязаныя з літаратурнымі коламі Беластока і рэгіёна або нарадзіліся тут, або жывуць, або чые творы маюць дачыненне да горада і рэгіёна, і аўтарам, чые кнігі былі апублікаваныя ў Беластоку». Узнагарода прысуджаецца сярод усіх літаратурных жанраў. Выключаюцца з удзелу анталогіі, даследаванні і навуковыя публікацыі. Лаўрэатамі прэміі ў дадзеным годзе можа быць не больш, чым два аўтары кніг.

У ходзе абмеркавання на Радыё Беласток я адзначыў, што можа добра было б, каб Капітул прыняў да ўвагі кнігі, выдадзеныя ў Беластоку і на іншых, чым польская, мовах, гучаўшых таксама на вуліцах падляшскай сталіцы, у першую чаргу, вядома, не рэдка выдаваныя на беларускай мове. А каб заахвочваць да старання за гэты прыз (ён звязаны з прасоўваннем аўтара і яго твора ды фінансавай падтрымкай), можа варта дапоўніць яго правілы на некалькі слоў у адрас беларускамоўных (меншасных) аўтараў і чытачоў, тым больш, што гэта не павінна быць сур'ёзнай праблемай, паколькі правілы мяняліся ўжо некалькі разоў. Прыгадаў, што таксама няпольскамоўная літаратура магла б разлічваць на спрыяльнае вока членаў Капітула і адзначыў, што ў Беластоку, які хваліцца шматкультурнасцю, яна раўнацэнная. Прымаючая ўдзел у «Падарожжы па культуры» літаратуразнаўца з універсітэта ў Беластоку, член Капітула Катажына Савіцкая-Мяжынская сказала, крыху ўцякаючы ад маёй прапановы:

— У нашым рэгіёне паволі дасяпаваем да аўтэнтычнай шматкультурнасці, каб не гаварыць тут асобна аб беларускай і польскай літаратуры, каб мы размаўлялі аб тутэйшай, падляшскай. Але мы губляем двухмоўе — элемент падляшскага «пейзажу», дзе натуральным было выкарыстоўванне польскай мовы і беларускіх гаворак. Сёння, на жаль, гэта не прастора паразумення, гэта прастора перакладу.

Я разважаў перад мікрафонам ці можа праблема заключаецца ў тым, што члены Капітула проста не гавораць на беларускай мове (патрэбнае, мабыць, добрае яе веданне, з адчувальнасцю нюансаў літаратурнай беларускай мовы). Пані Катажына прызналася, што чытае па-беларуску, з агаворкай, аднак, што «можа не знакаміта», а як наконт іншых членаў Капітула, пазбегла адказу. Дадала:

— Калі б такая кніга па-беларуску была заяўлена, напэўна мы з ёй у Капітуле справіліся б.

Да сённяшняга дня лаўрэатамі прэміі імя Веслава Казанэцкага, якія выводзяцца з беларускага асяроддзя, былі аўтары кніг напісаных на польскай мове: Юры Плютовіч („Kotlina”, „Zapomniana wojna. Europa po deszczu”, „Nagle w świecie”), Уладзімір Паўлючук („Judasz”), чатыры разы Ігнацы Карповіч („Nowy kwiat cesarza”, „Gesty”, „Balladyny i romanse” і „Ości”) і Міхал Андрасюк (за «Белага каня», пераклад на польскую мову з беларускай). Сярод намінантаў была, між іншым, Міра Лукша за кнігу вершаў на польскай мове «Biały stok». За мінулы год з 27 найменняў, прадстаўленых на атрыманне прэміі, журы намінавала польскамоўныя кнігі „Sońka” Ігната Карповіча, „Cudowna” Пятра Нестаровіча (абедзве кранаюць беларушчыну) і кнігу вершаў „rzeczy pospolite” Тэрэсы Радзевіч. Сярод заяўленых апынуўся беларус з Цісоўкі Багдан Дудко з кнігамі „Dolina. Znad Narwi i Świsłoczy” (выпушчаная «Нівай» і Радыё Рацыя) і „Wilczek Milczek”.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ


Асаблівай увагі заслугоўваюць партрэты Аляксандра Грамацкага


Вернісаж адкрылі ўнук жывапісца Данель Грамацкі (справа) і дырэктар музея Тамаш Ціханюк

# Беларускі жывапісец-самавук
# Санька Грамацкі

**— Калі б Аляксандр Грамацкі здабыў мастацкую адукацыю, мог бы стаць прызнаным нашым беларускім жывапісцам, вядомым на ўсю Польшчу. Аднак самавук і так маляваў і рысаваў на ўзроўні лепшым ад многіх сённяшніх жывапісцаў-аматараў. Шкада, што толькі пасля смерці Аляксандра Грамацкага жыхары Гайнаўшчыны могуць пазнаёміцца з яго рэалістычным мастацтвам, на якім адлюстраваны між іншым падляшскі пейзаж. Раней свае карціны мастак раздаваў толькі сямейнікам і знаёмым, — сказаў Тамаш Ціханюк, дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, у якім нядаўна адкрылася мемарыяльная выстава прац Аляксандра Грамацкага, жывапісца з вёскі Горнае, якая пры жыцці мастака была далучана да Гайнаўкі і стала вуліцай Горнай. Алейныя карціны і рысункі Аляксандра Грамацкага на музейнай экспазіцыі, арганізаванай у рамках праекта «Алфавіт беларускага мастацтва», былі сабраны з прыватных калекцый яго нашчадкаў. Выбраныя рэпрадукцыі прац у буклеце, які ўвайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў», будуць сведчыць аб мастацкім таленце беларуса з-пад Белавежскай пушчы нават ва ўніверсітэцкіх асяродках Польшчы.**

— Гэта ад дзядулі Аляксандра стаў я ў падставовай школе вучыцца падставам малявання і рысавання. Перад гэтым папрасіў ён мяне прынесці мае працы для ацэнкі. Паглядзеўшы на іх, дзядуля сказаў, што ў мяне ёсць *дрыг* да малявання. Пад яго наглядам стаў я маляваць акружаючы свет. Дзядуля Аляксандр купіў мне пэндзлі, алейныя фарбы і зрабіў мне мальберт, якім я карыстаўся аж но да васямнаццатага года жыцця, калі ў падарунку атрымаў новы мальберт. Дзядуля быў уражлівым чалавекам. Ён больш адкрыта, чым іншыя, глядзеў на акружаючы свет, а мне, між іншым, даваў парады, як глядзець на прыроду. Не быў ён багатым чалавекам, хаця ўсё жыццё працаваў многа, сумленна і адказна. Нават сваім дзецям ніколі аўтаручкі з канцылярыі, у якой працаваў, не прынёс, бо лічыў, што нельга браць дзяржаўную маёмасць дамоў. Майстэрня дзядулі была ў гаспадарчым будынку, можна сказаць — у хлеўчыку, а зімой займаўся ў летняй кухні, каб не распаўсюджваць пах алейных фарбаў у доме. Дзядуля не падпісваў сваіх прац і калі яны цяпер знаходзяцца па людзях, частка з іх не ведае аўтара карцін. Зараз я шкадуюся, што не ўдалося арганізаваць выставы жывапісу дзядулі Аляксандра раней, калі ён жыў, — заявіў гайнаўскі беларускі мастак Данель Грамацкі, які ў Гайнаўскім белмузеі арганізаваў майстэрню і вучыць у ёй рысаванню і маляванню. Разам з дырэктарам Тамашам Ціханюком адкрыў ён вернісаж выставы карцін свайго дзядулі.

Аляксандр Грамацкі нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Горнае, якая тады належала да Праваслаўнага прыхода ў Новым Беразове і ў гэтым сяле знайшоў сабе жонку Марыю Бацаноўскую (ажаніўся ў 1951 годзе), з якой мелі пяцёра дзяцей. Бацька Аляксандра памёр у раннім дзяцінстве. У бацькаўскай хаце пражыў ён аж но да смерці ў 2005 годзе. Разам з маці жылі яны ў беднасці. Аляксандр закончыў пачатковую школу ў Гайнаўцы, а пасля вячэрняе аддзяленне Агульнаадукацыйнага ліцэя і атрымаў атэстат сталасці. Падчас вучобы праявіў сябе як пільны, адораны мастацкім талентам вучань, які на патрэбы школы выконваў партрэты вядомых людзей. З пяцідзесятых гадоў працаваў у канцылярыі Ваяводскага спажывецкага кааператыва «Społem» у Гайнаўцы і адтуль у 1983 годзе адышоў на пенсію. У міжчасе скончыў Базавую гандлёвую школу ў Беластоку і абараніў дыпломную працу ў Навучальным асяродку ў Кентшыне. Мяркуецца, што мастацкія працы Аляксандра Грамацкага маглі паказвацца толькі на выставе ў Гродне. Зараз вядома, што яго карціны і малюнкі знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Гайнаўцы, Беластоку, Варшаве і Любліне. Мастацкія работы на выставу ў Гайнаўскім белмузеі былі сабраны ад сямейнікаў жывапісца — Аляксандра і Галіны Грыцаў, Людмілы Ажахоўскай, Сімана Грамацкага, Данеля Грамацкага і Кацярыны Заброцкай.

— Аляксандр Грамацкі ўпісваецца ў плынь непрафесійнага мастацтва свецкай тэматыкі. Ён — самародны талент, які ніколі не быў адкрыты і ніколі не быў ацэнены. Няма звестак пра яго ўдзел у выставах, пленэрах, не прадаваў сваіх карцін. Нават іх не падпісваў. Аднак маляваў з патрэбы сэрца, а працамі абдорваў блізкіх і сямейнікаў. Выстава ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы — першая персанальная выстава мастака, — напісала ў нававыдадзеным буклеце белмузейная спецыялістка па мастацтве Агнешка Ціханюк. — Мастак працаваў у духу рэалізму дзевятнаццатага стагоддзя. Дакладна перакязваў рэчаіснасць, пейзажы, сцэны з блізкага яму жыцця (напрыклад, атака ваўкоў). Часам браў за аснову паштоўкі, ці газетныя выразкі з краявідамі галандскіх і горных пейзажаў. Яго карціны вылучаюцца далікатнай палітрай колераў, спакойнай, гарманічнай кампазіцыяй. Вялікім козырам мастака-самавука з'яўляецца яго ўменне рысунку — дасканала рабіў партрэты блізкіх яму асоб.

Хаця Аляксандр Грамацкі з нястачы сродкаў часта маляваў алейнымі фарбамі на фанеры, то добра спраўляўся з падборкай колераў і кампазіцыяй сваіх прац, што заўважылі знатакі мастацтва, якія прыбылі на вернісаж.

— У мяне таксама былі здольнасці да малявання і рысавання, якія, думаю, я пераняла па маім дзядулю Аляксандру, але я іх не разгарнула, так як гэта зрабіў Данель. Мастацкі талент я бачу таксама ў майго сынка Юліяна, які стаў хадзіць на мастацкія заняткі і разгортвае свае здольнасці, — сказала Карына, унучка Аляксандра Грамацкага. — Я вельмі добра ўспамінаю свайго дзядулю, які вельмі любіў маляваць і рысаваць. У нашай сям'і засталося крыху ягоных карцін. У мяне засталіся алейныя фарбы, пэндзлі і я перадам іх майму сынку, расказваючы пра мастацкі талент яго прадзядулі Аляксандра.

У жыцці Аляксандра Грамацкага былі перыяды творчай дзейнасці і мастацкага перапынку. У сямейных калекцыях захаваліся яго працы з шасцідзясятых гадоў, але самы плённы перыяд мастацкай актыўнасці выпаў на пенсійны час.

— Маляванне давалася яму вельмі лёгка, таму да сваіх прац ставіўся не надта сур'ёзна. Дзед раздаваў карціны блізкім і не ўдзельнічаў у выставах. З часам мастацтва стала спосабам адпачынку ад праблем са здароўем. Дзед, малюючы карціны, чэрпаў натхненне з рэпрадукцый любімых расійскіх мастакоў. Таксама зрабіў шэраг партрэтаў блізкіх яму людзей. Дзед заўсёды застанецца ў маёй памяці як першы і самы важны настаўнік жывапісу. Дзякуючы яму я спазнаў радасць творчасці, — расказваў унук мастака Данель Грамацкі. Дабавіў ён, што на асаблівую ўвагу заслугоўваюць партрэты, на якіх патрапіў адлюстраваць чалавечыя асаблівасці. Партрэты прыцягнулі ўвагу ўдзельнікаў вернісажу выставы жывапісу і рысунку Санькі Грамацкага, як яго называлі *на Горным*.

— Самыя лепшыя працы бацькі паўсталі ў апошнім перыядзе яго жыцця. Аднак мы, сямейнікі, глядзелі на яго маляванне як на нейкае яго зацікаўленне, а не як на талент. Не падазравалі мы, што бацькавы карціны могуць зацікавіць знатакоў мастацтва. Мы нават не марылі, што будзе наладжана выстава ягоных прац. Зараз мы рады, што яго карціны сабраныя ў адным месцы і будуць на іх глядзець гайнаўяне і турысты, — сказала дачка Аляксандра Грамацкага — Галіна Грыц. Яе брат Яўген Грамацкі пацвердзіў, што карціны бацькі асабліва не збярагаліся і раздаваліся ім не толькі сямейнікам, але і знаёмым. Зараз складана іх, непадпісаных, адшукаць.

— Сябра Аляксандр Сямёнавіч Грамацкі быў чалавекам быццам не з гэтага свету. Ён павінен быў шукаць сваё месца. Можа ў Акадэміі мастацтваў? У тэатры? Ва ўніверсітэце? Усюды быў бы больш прыдатны, чым у канцылярыі ў Гайнаўцы. Санька Грамацкі глядзеў на свет вачыма мастака, бачыў тое, чаго не бачылі іншыя. Жывапісу на грошы не пералічваў, гэта было шчырае захапленне. Калі не маляваў, то расказваў з хуткасцю святла, бо словы цісνуліся яму на вусны з той жа хуткасцю, як крэскі, плямы і колеры на паперу, ці палатно, — напісалі ва ўспамінах Ганна Марыя і Пётр Грушэўскія.

На экспазіцыі ў белмузеі знаходзяцца карціны з прыгожымі палявымі і ляснымі пейзажамі і горнымі краявідамі. Працы з зубрамі, аленямі і лясной прыродай, мабыць, былі выкананы пасля захаплення мастака Белавежскай пушчай, ад якой вельмі блізка была распалажана вёска Горнае.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Зімовыя канікулы ў доме культуры



Студзень — месяц канікул. Пасля каталіцкіх, а потым праваслаўных Каляд наступаюць чарговыя, вольныя ад вучобы зімовыя тыдні. Чым іх запоўніць у час усемагутнага фейсбука і хранічнага недахопу грошай. За парадай наш тыднёвік звярнуўся да Альжбеты Чарэмхі — дырэктаркі Гміннага дома культуры ў Крынках.

— З дзяцінства зімовыя канікулы праводзіла я ў нашым доме культуры, — кажа спадарыня дырэктар. — Найбольш запамяталіся мне паездкі ў вясковы дом культуры ў недалёкіх Гуранах. Вяла яго тады незвычайная жанчына — Галена Радэль. Яна займалася мясцовым фальклорам, збірала песні, старадаўнія хатнія прылады. Ніколі не шкадавала людзям свайго прыватнага часу, дзякуючы чаму гуранскі асяродак вылучаўся надта буйнай дзейнасцю. Ішлі туды і дзеці, і старыя, разам варылі, гулялі ў тэатр. Дзейнічаў там нават дыскусійны фільмавы клуб. Спадарыня Радэль вяла таксама фальклорны калектыў „Гуранкі", які калядаваў не з гвяздай, як гэта прынята сёння, а з казой. З Крынак ехалі мы туды на фуры з сенам, якую цягнуў конь або трактар. Там гулялі пры вогнішчы альбо на дыскатэцы.

Тады ў крынскім доме культуры дзеці самі арганізавалі сабе час. Мы папросту спатыкаліся і рашалі, што будзем рабіць. Найчасцей гралі ў карасінку альбо цэлай камандай з'язджалі з Кабыліных ці Ганадскіх гор на санках, мяшках, выпханых сенам, ці камерах ад трактароў. Пасля закрыцця ў Крынках кіно, недзе ў васьмідзясятых гадах, працаўнікі дома культуры арганізавалі нам паказы відэафільмаў. За невялікай аплатай нехта з Беластока прыязджаў са сваім абсталяваннем і з васьмі вечара да трэцяй раніцы пускаў нам амерыканскае кіно.

За 25 гадоў кіравання домам культуры я здолела выпрацаваць уласныя метады арганізацыі зімовых канікул. Заўсёды вялікай папулярнасцю карыстаюцца спартыўныя спаборніцтвы, у якіх у розных узроставых катэгорыях і відах спорту можна пазмагацца за званне чэмпіёна гміны. Прапаную таксама разнародныя мастацкія заняткі. Ніколі не трымаюся цвёрда планаў. Заўсёды іду за голасам моладзі. Канчаткова робім тое, што прыйдзе ім у галаву. Помню, аднойчы на аснове вершыка пра матылька зрабілі мы лялечны тэатр. Дзеці самастойна выканалі папяровыя лялькі, праз два крэслы перакалалі кій ад шчоткі, на гэта павесілі кусок фіранкі і атрымаўся сапраўдны тэатр. Дзеці любяць варыць. Кулінарнымі рэзультатамі цешымся за супольна і прыгожа накрытым сталом. На бліжэйшыя канікулы запланавала я, між іншым, пабудову кармушак для птушак і ўрокі прыроды ў лесе, якія будуць весці мясцовыя леснікі. Паедзем таксама на крыты каток у Беласток. Ахвотныя змогуць паўдзельнічаць у фатаграфічных занятках і конкурсе з узнагародамі на найлепшыя здымкі зімовых Крынак. Будуць і камп'ютарныя заняткі. У Крынках шмат дзяцей не мае доступу да інтэрнэту ў хаце.Тут змогуць пакарыстацца ім бясплатна. Пагуляем у фільм. Спрабуем зрабіць кароткі рэпартаж з нашых сустрэч. Канікулы завершацца сапраўдным карнавальным балем. У зімовых занятках звычайна ўдзельнічаюць вучні сярэдніх школ, а таксама мясцовай гімназіі, падставовай школы і прадшколля. У іх арганізацыі заўсёды дапамагае мне цэлы штаб валанцёраў.

Дзеці прыходзяць сюды ахвотна. Цэняць маю працу, за якую адплачваюцца бязмежным даверам, а для мяне гэта найвялікшая ўзнагарода.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# «Сустрэчы» і «Прысутнасць»

## Частка 1 — «Сустрэчы»

Беларускія студэнты 1980-х і пачатку 1990-х гадоў у сваёй дзейнасці вельмі клапаціліся за друкаванае слова. Зараз пасля кангрэса Згуртавання польскіх студэнтаў (ZSP) у яго рамках ствараецца Агульнапольская рада культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей: беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. У нашым выпадку была гэта Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці. Прыгадайма, што маем канец 1982 года. Ваеннае становішча, яго строгія законы афіцыйна адмяняюцца.

Неўзабаве, бо яшчэ ў снежні 1982 года, створаны быў выдавецкі праект прэсавага органа Рады культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей — часопіс «Сустрэчы». Меў гэта быць штомесячнік — па тры моўныя выданні для меншасцей плюс такі ж часопіс на польскай мове.

З 1983 года найперш па-польску выходзілі «Spotkania», а потым, з наступнага года — на мовах меншасцей. Такім чынам беларускія студэнты займелі сваю афіцыйную і легальную газету.

Першымі рэдактарамі «Сустрэч» былі студэнты, былыя «басаўцы», якія ў новых умовах знайшлі сваё месца. Вось як апраўдваў (тлумачыў) дзейнасць у афіцыйных структурах Ян Гаворка ў артыкуле «Сэрца і закон»:

«Была гэта адзіная магчымасць дабіцца ўласнае арганізацыйнае структуры студэнтам нацыянальных меншасцей. Пасля кансультацыі ў асяроддзі, хаця было многа невядомага адносна новае арганізацыі, нашыя прадстаўнікі падаліся на З'езд (ZSP). Праграмная пастанова (кангрэса ZSP) гаворыць аб «стварэнні інстытуцыянальных і матэрыяльных умоў для развіцця грамадска-культуратворнай актыўнасці студэнтаў нацыянальных меншасцей у Польшчы (...). Менавіта ў гэтай галіне актыўнасці арганізацыі мы бачым сваё месца» («Spotkania» № 1).







Пазнейшыя гады і больш за дзясятак выдадзеных нумароў «Сустрэч» даказалі, што выбар быў правільны. Лепш дзейнічаць легальна, нават у пээнэраўскай арганізацыі, чымсьці ўвогуле.

Галоўным рэдактарам «Сустрэч» быў Іван Максімюк, пазнейшы журналіст «Нівы», а зараз супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода.

З трэцяга нумара «Сустрэч» рэдакцыю ўзначальваў Валік Сельвясюк — цяпер бізнесовец. Апошнія выданні рэдагаваў Мікола Ваўранюк — цяпер журналіст Беластоцкага тэлебачання і Радыё Рацыя. «Сустрэчы» кароткі час узначальваў Аляксандр Максімюк — пазнейшы інфарматык.

Варта дадаць, што ў «Сустрэчах» свае вершы змяшчалі Андрэй Сцепанюк, светлай памяці Марыльва Базылюк. Артыкулы дасылалі Алег Латышонак — цяпер прафесар Універсітэта ў Беластоку, Віктар Ермалковіч — студэнцкі дзеяч міжваеннага часу, Алег Аблажэй — сучасны мастак з Вільні.

Першыя нумары «Сустрэч» мастацка афармляў Лёнік Тарасэвіч — цяпер сусветнай славы мастак, прафесар Мастацкай акадэміі ў Варшаве. Ягоныя сатырычныя рысункі «Беларускіх зорак» і на тэму сітуацыі таго часу, думаю, цяпер маюць значную вартасць (арыгіналы, вядома). Ён жа аўтар таксама першага ў сучаснай гісторыі беларускага коміксa пра караля Ягайлу і ягоную маладую жонку Ядвігу.

Вельмі цікавай, асабліва з сённяшняга пункту гледжання, з'яўляецца рубрыка «Хроніка», датычная беларускага і студэнцкага жыцця. Для прыкладу: «7.11.'87. У студэнцкім клубе «УБАБ», што на вуліцы Кіцкага 9, адбыліся сёмыя ўжо атрасіны (беларускіх) студэнтаў-першакурснікаў варшаўскіх вышэйшых навуковых установаў. Было атрэсеных, а затым прынятых у рады студэнтаў 29 асобаў». Падумайце — 29 студэнтаў на першы курс і то ў Варшаве! Цяпер мо ўсіх дзейных студэнтаў на ўсіх вучэльнях у цэлай краіне нямнога больш.

З асяроддзя рэдакцыйнага калектыву часопіса беларускіх студэнтаў выйшла шмат пазнейшых публіцыстаў і журналістаў. Не толькі ўспомненыя мною Максімюк, Латышонак ці Ваўранюк, але і Яўген Вапа — цяперашні галоўны рэдактар «Нівы», Аліцыя Петручук — вядомая рэпарцёрка Радыё Беласток, ці скромная асоба аўтара гэтых радкоў.

Калі палічыць усіх людзей, якія ў той, ці іншы спосаб былі звязаны са студэнцкім часопісам, будзе іх каля 30 чалавек.

Аб чым пісалі студэнты ў сваім часопісе? Возьмем для прыкладу першыя выданні.

У «Сустрэчах» № 2 Ядвіга Каліноўская ў артыкуле **«Nie jestem Białorusinką»** пісала: **„Przed kilku zaledwie laty byłam pewna, że jestem rdzenną Polką. Mieszkałam przecież w Polsce (okolice Korycin — Sokółka), chodziłam do katolickiego kościoła, starałam się mówić w języku polskim. (...) Dorośli (...) własny język uważali za „brzydki", wulgarny. (...) Jeszcze kilka lat wstecz cieszyłam się, że młodzi brzydzą się wulgarnego języka. Byłam pewna, że nowe pokolenia będą doskonaliły się w używaniu języka polskiego, wymazując z pamięci język przodków. I oto w czasie studiów spotykam kolegów, którzy również pochodzą z podobnego środowiska. Z tym, że oni posługują się językiem z pogranicza białorusko-ukraińskiego. Z tym, że oni wcale się nie wstydzą mowy swoich ojców, sami chętnie nią się posługują. Zaczęłam się zastanawiać, czy język mego rodzinnego środowiska jest czymś, co trzeba wymazać z pamięci".**

Артыкул быў надрукаваны 31 год таму і... сёння гучыць надзвычай актуальна. Амаль нічога не змянілася ў свядомасці людзей на Сакольшчыне.

Усе артыкулы і подпісы пад здымкамі і рысункамі Лёніка трэба было перакладаць на польскую мову для чыноўнікаў па цэнзуры. І занесці ў адпаведны час на славутую Мышыную вуліцу (ul. Mysia, 3). Толькі тады мы атрымлівалі дазвол і з макетам «Сустрэч» можна было ісці ў друкарню. І чакаць, калі выйдзе гатовы нумар...

Помніца па сёння пах друкарскай фарбы першага беларускага выдання «Сустрэч». Ах, што гэта была за падзея! Свята, проста.

Апошнія нумары «Сустрэч» выходзілі ўжо пасля змены грамадска-палітычнага ладу ў Польшчы, значыць пасля 1989 года. Не было цэнзуры, а і склад стаў камп'ютарным, значыць лягчэйшым, і што важнае, выдаўцом не была ўжо Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці, а БАС — Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Тым не менш, усяму прыходзіць канец.

Апошні нумар убачыў свет у 1991 годзе.

Ролю і значэнне «Сустрэч» не мне ацэньваць — няхай нехта звонку, або нехта з маладога пакалення гэта зробіць.

Паралельна пра беларускіх студэнтаў часта пісалася ў «Ніве», ці гэта мы самі, ці ніўскія журналісты пісалі. З пачатку 1985 года ў беларускім штотыднёвіку з'явілася студэнцкая старонка «Прысутнасць». Раз у месяц. Але аб гэтым у наступнай частцы.

Юрка ЛЯШЧЫНСКІ /Беларускае Радыё Рацыя/

# Еднасць пасля трагедыі

Атака на рэдакцыю французскага сатырычнага часопіса «Charlie Hebdo» ўскалыхнула міжнароднай журналісцкай супольнасцю, выклікала таксама шмат эмоцый сярод вернікаў розных канфесій. З 7 студзеня, калі ў памяшканне газеты ўварваліся ўзброеныя ісламісты (грамадзяне Францыі алжырскага паходжання, браты Саід і Шэрыф Куашы) і па-зверску расстралялі журналістаў і карыкатурыстаў выдання, не сціхаюць дыскусіі пра межы свабоды слова. Атака тэрарыстаў у Парыжы прымусіла ўсю Еўропу задумацца таксама над пытаннем адкрытасці заходніх дзяржаў для імігрантаў з ісламскіх краін Афрыкі і Азіі ды іх функцыянавання ў грамадстве. Сацыёлагі гаварылі пра магчымасць і ўмовы суіснавання розных культур і рэлігій у межах адной дзяржавы ды непазбежныя канфлікты паміж іх прадстаўнікамі.




У часе атакі на «Charlie Hebdo», якая адкрыла серыю тэрарыстычных дзеянняў у Парыжы і яго ваколіцы, мне давялося пабываць у французскай сталіцы і быць сведкай невымоўнай хвалі салідарнасці, якую праявілі жыхары Францыі, у тым ліку мусульманскія суполкі. Нацыянальная жалоба не выяўлялася — як часта гэта бывае — толькі на дзяржаўным узроўні. Пасля падзей, якія ўдарылі па самых важных каштоўнасцях французаў — выпрацаваных імі здабытках спелай дэмакратыі і свабоднай дзяржавы — тысячы людзей ускладалі кветкі да Статуі Рэспублікі — сімвала французскай свабоды і братэрства. Плакаты і транспаранты, напалову апушчаныя дзяржаўныя сцягі, здымкі ахвяр варварскай атакі і амаль фізічна адчувальныя салідарнасць і спачуванне рабілі паўсюднае «Je suis Charlie» («Я — Шарлі») не проста пустым лозунгам, а жывым голасам усяго грамадства. Грамадства, якое незалежна ад свайго светапогляду і канфесіі вырашыла выказаць супраціў тэрарызму.

Няма згоды, каб нават правакацыйныя публікацыі і карыкатуры, якія змяшчае французскі часопіс, сустракаліся з адказам у выглядзе зверскіх расстрэлаў і запалохвання. Тэрарызм не знаходзіць апраўдання ў любых абставінах. Французы — у адрозненне ад некаторых польскіх ці беларускіх публіцыстаў, якія замест рашуча асудзіць атакі, пачалі шукаць іх прычын у смелых, часта абразлівых малюнках рэдактараў «Charlie Hebdo» — даказалі, што ў абліччы забойства журналістаў не маюць значэння палітычныя сімпатыі ці нянавісць на фоне веравызнання. Пытанне абразы рэлігійных пачуццяў, у якой раней абвінавачвалі сатырычны часопіс, не ўздымалася, ніхто ўголас (і, верагодна, нават у думках) не выказваў меркавання, што «рэдакцыя сама сабе вінаватая», бо ў газеце змяшчала карыкатуры прарока Мухамеда. Дарэчы, «Charlie Hebdo» не шкадаваў сарказму і вострай крытыкі і іншым — хрысціянам (на вокладках тыднёвіка з’яўляліся карыкатуры папаў Бенедыкта і Францішка ці Святой Тройцы) і яўрэям. Супраць рэдакцыі часопіса неаднаразова ўзбуджаліся судовыя справы, сярод іншага — з-за смелых, часта абразлівых малюнкаў вядучых французскіх палітыкаў. Судовыя разбіральніцтвы завяршаліся па-рознаму, часам «Charlie Hebdo» прыходзілася кампенсаваць маральныя страты пацярпелым.

Аднак толькі ў пачатку студзеня дзевяць членаў рэдакцыі існуючага з 1970 года часопіса сталі ахвярамі двух тэрарыстаў, якія вырашылі самастойна адстаяць «справядлівасць» і адпомсціць за знявагі прарока. Апроч журналістаў і карыкатурыстаў, якія 7 студзеня звычайна прыйшлі на працу, ісламісты застрэлілі двух паліцыянтаў. Тэрарысты абсалютна не раскаяліся ў злачынствах, больш за тое — неаднаразова заяўлялі, што хочуць стаць пакутнікамі за сваю справу.

Варта адзначыць, што салідарнасць з рэдакцыяй «Charlie Hebdo» выказалі і французскія езуіты. У тэалагічным часопісе «Etudes» быў апублікаваны артыкул, дзе напад называўся атакай на свабоду слова. «Аднагалосныя рэакцыі пасля атакі, якія з’явіліся як з левага, так і з правага боку, сярод вернікаў і атэістаў, паказалі, што мы не баімся і стаем у абарону плюралістычнага грамадства», — чытаем у «Etudes». Дадаткова ў нумары былі змешчаны чатыры карыкатуры, якія адносяцца да каталіцызму. А французы яшчэ раз выказалі салідарнасць з «Charlie Hebdo», раскупіўшы — ужо а 8-й раніцы — увесь трохмільённы тыраж першага нумара, які выйшаў пасля тэрарыстычнай атакі на рэдакцыю.

Усё тое, што назіралася ў Парыжы ды многіх іншых еўрапейскіх гарадах, уся падтрымка і салідарнасць, сапраўды ўражвае. Сіла і пераканаўчасць гэтых з’яў выяўлялася аднак перш за ўсё ў пазіцыі саміх французаў, якія праявілі спеласць, спагаду і паказальную еднасць пасля трагедыі. Хочацца верыць, што ў будучыні (як мага бліжэйшай) беларускае грамадства стане хоць крыху такім жа як французскае, а справы знікненняў і пераследу журналістаў, якія ў апошнім часе ізноў пачасціліся, не будуць праходзіць незаўважанымі.

**Тэкст і фота Ганны МОРДАНЬ**



## Бюджэт Чаромхаўскай гміны

30 снежня 2014 г. асноўным пунктам пасяджэння IV сесіі Рады гміны было прыняцце бюджэту на 2015 год. Сёлетні бюджэт Чаромхаўскай гміны складае 11 287 052 зл. на баку прыбыткаў і 11 894 478,75 зл. на баку выдаткаў. Дэфіцыт 312 430,75 зл. будзе пагашаны банкавым крэдытам і 294 996 зл. вольнымі сродкамі.

А вось як самаўрад размеркаваў гмінны бюджэт на гэты год. На інвестыцыйныя задачы прызначана 4 669 024 зл. З таго на:

— афармленне тэхнічна-праектнай дакументацыі мадэрнізацыі гміннай ачышчальні сцёкаў і каналізацыі Чаромхі-Вёскі — 50 000 зл.;

— перабудову гміннай дарогі Ставішчы — Полаўцы — 1 301 190 зл. (задача паглыне 645 595 зл. з прыбыткаў уласных, 650 595 зл. з дзяржаўных датацый і 5 000 зл. з датацый іншых службовых адзінак публічнага сектара);

— афармленне дакументацыі на мадэрнізацыю вуліцы Вісьнёвай і прылеглых вуліц — 50 000 зл.;

— укараненне электронных паслуг для насельніцтва — II этап; кошт задачы — 142 914 зл. (сёлета будзе выкарыстаных 114 552 зл., прытым 16 044,25 зл. з прыбыткаў уласных, 1 138,75 зл. з банкавага крэдыту і пазыкі, затым 97 369 зл. еўрасаюзных сродкаў);

— афармленне дакументацыі для абсталявання сонечных калектараў — 12 000 зл.;

— паляпшэнне трансгранічнай сістэмы аховы натуральнага асяроддзя гміны Чаромха і раёна Высокае шляхам разбудовы каналізацыйнай інфраструктуры — кошт задачы 3 112 920 зл., прычым сёлета будзе выкарыстаных 987 353 зл. (на рэалізацыю задачы гміна возьме банкавы крэдыт 311 292 зл. і пакарыстаецца сродкамі ЕС велічынёю 676 061 зл.

На датацыі і інвестыцыйныя сродкі гміна прызначыла 1 134 029 зл., у тым ліку — на асвету і выхаванне: пачатковая школа — 3 296 265 зл, прадшколле — 427 500 зл., гімназія — 1 085 546 зл., давоз вучняў у школу —190 850 зл.; на ахову здароўя — 61 000 зл.; на фізкультуру і спорт — 99 800 зл.; вулічнае асвятленне — 123 000 зл.; на гаспадарку нечыстотамі — 242 000 зл.; і на адміністрацыю — 1 568 018 зл., затым на дыеты радным, у тым ліку харчовыя прадукты, якія спажываюцца на сесіях Рады гміны — 65 000 зл. Варта прыбавіць, што ў бюджэце на сацыяльную дапамогу адведзена 1 853 050 зл., на Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі — 194 550 зл. і падкормліванне вучняў у рамках урадавай праграмы „Дапамога дзяржавы ў сферы падкормлівання” — 102 500 зл.

З вышэйпаказаных даных відаць, што адно дзве распачатыя інвестыцыі будуць рэалізаваны. Новая Рада афармляе дакументы на чарговыя. Як будуць рэалізаваны, пакажа час.

**Уладзімір СІДАРУК**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Мне цікава ведаць як было калісь!

**Інтэрв'ю з Магдай Бяляўскай з Нараўкі, якая атрымала вылучэнне ў беларускім літконкурсе «Дэбют».**




**Зорка:** — *Магда, ужо чарговы раз Цябе заўважыла журы?*

**Магда Бяляўская**: — Так, я другі раз атрымала вылучэнне. Я вельмі шчаслівая. Для мяне гэта такі нечаканы падарунак лёсу.

**З:** — *Ці гэта значыць, што больш упэўнена будзеш думаць пра свае літаратурныя здольнасці і больш адважна пачнеш пісаць па-беларуску?*

**МБ:** — Так.

**З:** — *Ты вельмі таямнічая і ашчадная на словы дзяўчынка. Скажы, як узніклі Твае вершы?*

**МБ:** — Гэта было з «нудаў». Я сядзела ў пакоі і раптам мне захацелася напісаць вершы і я напісала...

**З:** — *Ого! А ёсць у Цябе яшчэ нейкія асаблівыя зацікаўленні?*

**МБ:** — Цікавіць мяне музыка, іграю на гітары і хачу ісці ў гэтым кірунку. Гэта такое хобі, таксама хачу пісаць апавяданні.

**З:** — *У якім узросце Ты напісала свой першы верш?*

**МБ:** — У адзінаццаць гадоў. З гэтай пары я напісала можа з дзесяць вершаў.

**З:** — *Там быў верш пра царскі палац у Белавежы, якога ўжо няма. Калі я прачытала гэты верш, падумала, што любіш расказы старэйшых людзей.*

**МБ:** — Для мяне вельмі цікава слухаць як было калісь у Нараўцы ці ў Белавежы. Хачу яшчэ навучыцца пісаць апавяданні, пісаць пра мінулае і людзей, якія калісь жылі, дасылаць тэксты ў «Зорку», каб чыталі іншыя вучні.

**З:** — *Гэта будуць сямейныя ўспаміны ці можа гістарычны рэпартаж?*

**МБ:** — Яшчэ не ведаю. Цяпер найлягчэй мне пісаць вершы. Але хачу ісці далей, чытаць, развівацца.

**З:** — *Тады будзем супольна працаваць і чакаць Тваіх новых твораў! Яшчэ раз віншую з поспехам і файнымі вершамі!*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

*Магда БЯЛЯЎСКАЯ*
*Гімназія ў Нараўцы*

## Прыгожая ноч

*Цемра...*
*Рамантычна вельмі,*
*калі зорак шмат з неба ляціць,*
*а ў адной з іх бачу – ты.*
*І прашу цябе – не ўпадай*
*усю ноч хачу аглядаць твой твар.*
*Месяц ясна свеціць у прыгожую ноч,*
*я вымаўляю мару да яго проста.*
*Можа здзейсніцца,*
*Можа ўдасца...*
*А сваю таямніцу ў вершы замыкаю.*

# Кніжка пра першае каханне

Як знайсці хлопчыка, якога раптам здзьмухнуў вецер? Ён спачатку намаўляў Віту сысці з абранай дарогі, а пасля пачаставаў яе смачнай канапкай з печаным паштэтам, гурком і ворсам з кішэні. І невядома чаму пакінуў дзяўчынку, каб думала пра яго...




Памятаеце Віту — гэта тая самая дзяўчынка, што малюе белую крэску пасярэдзіне дарогі і лагодзіць агрэсію машын. У гэты раз у яе вядро з фарбай зваліўся хлопчык. Ён прыляцеў з ветрам, нарабіў закалоту і знік так жа хутка, як і з'явіўся. Праз гэта Віта адчувае сябе вельмі адзінокай. Яна зноў чакае сустрэчы з хлопчыкам Эйвіндам. Але як адшукаць кагосьці, каго здзьмухнуў вецер?

Новая кніжка шведскай пісьменніцы Сары Лундберг «Віта Белая Крэска і Эйвінд», гэта мастацкі аповед пра жыццё і першае каханне. Гісторыя напісаная простай мовай і аздобленая малюнкамі, якія нагадваюць казачны комікс. Дзякуючы арыгінальным малюнкам, чытач думае пачуццямі. Ён ад першай старонкі хоча дапамагчы дзяўчынцы...

«Віта Белая Крэска і Эйвінд» — незвычайна мадэрная кніжка для дзяцей, якую з ахвотай прачытаюць таксама дарослыя. Пераклад на беларускую мову, з улікам мовы маладых беларусаў, належыць Надзеі Кандрусевіч. Кніжка выдадзеная ў серыі «Калясовы ровар» у 2014 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Яе можна выйграць у конкурсах «Зоркі»

ЗОРКА

## Загадкі з роднай хаткі

## Увага, конкурс!!! (№ 4-15)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 1 лютага, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Над лугамі, над палямі,**
**Плачуць доўгімі слязамі,**
**Бульба, травы і жыты**
**часта слёз чакаюць тых.**
**Х.... і дож..**

(Міхась Пазнякоў)

**2.**

**Як жыве — заўжды маўчыць,**
**Нерухома ён ляжыць,**
**А вясной, калі памрэ,**
**мчыцца з гор, шуміць, раве.**
**С...**

(Нічыпар Парукаў)

**3.**

**Стаіць дзед пры дарожцы —**
**усім чапляе па брошцы.**
**Дзяд.....**

**Адказ на загадкі № 52-14: снег, снег, зайчык.**
**Узнагароды, кніжку «Віта Белая Крэска», выйгралі Наталля Пашкоўская з Нарвы, Мікола Абрамюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Навошта нам традыцыі?

Для нас нармальна, што ў дзень Нараджэння Хрыста стаіць аздобленая ёлка, пакідаем пустое месца пры стале, кладзем сена пад абрус, спяваем калядкі. Цікавая гісторыя калядных звычаяў. Перад хрысціянскай верай на нашай зямлі жылі паганскія плямёны.

У ноч з 21 на 22 снежня, у час зімовага сонцастаяння, паганцы святкавалі Шчодрыя годы. Яны верылі, што ў гэты дзень старое сонца памірае, а нараджаецца новае сонца, і тады пачынае прыбаўляцца дня, а ноч становіцца карацейшай.

Калі людзі клалі пад абрус сена, яны жадалі, каб у новым годзе ў хаце былі шчасце і дабрабыт. Некаторыя людзі кажуць, што сена пад абрусам гэта сімвал паганскіх бажкоў хаты і поля. Пустое месца пры стале заўсёды сімвалізуе памерлых продкаў. Пакідаецца яно, каб і продкі мелі магчымасць святкаваць з сям'ёй. Заўсёды неад'емнай часткай свята былі спевы. Людзі спявалі радасныя песні аб Новым годзе, пра шчасце, пра сям'ю, аб дастатку. Цікава, што калісь не было ёлкі ў хатах. Тады ставілі першы снапок збожжа, яго ўпрыгожвалі сушанымі фруктамі, арэхамі. Такі пучок людзі трымалі да вясны і зернем з гэтага пучка пачыналі сяўбу.




Я таксама ладжу свята для сваёй сям'і. Ведаю ўжо, што традыцыі продкаў загосцяць у маёй хаце. Маці, бацька, дзядулі, а таксама вывучэнне беларускай мовы далі мне самой і маім блізкім веды і магчымасць адчуваць святы і традыцыі як штосьці незвычайнае.

**Патрыцыя КАРЛАЎ**
**Пяшчанікі, Гарадоцкая гміна**

# ЗЛОСНАЯ АВЕЧКА

*(руская казка)*

Ехаў ля вёскі зімой надта задаволены з сябе пан. Нахлынула бура са снегам, рашыў пан пераначаваць у вёсцы. Запрасіў яго ў сваю хатку гаспадар. Зайшоў пан у сярэдзіну, скінуў футра з воўчай шкуры. А ў гаспадара ў хаце авечка была. Як пачула яна пах ваўка, дык уся ад страху затрэслася і нагамі тупае: туп-туп-туп.

Пан пытае ў гаспадара:

— Чаго твая авечка нагамі тупае і на мяне зверам глядзіць?

— Яна ваўка чуе, таму такая злосная. Мая авечка ваўкоў ловіць. За гэтую зіму ўжо дзесяць ваўкоў зарэзала.

— Вось мне б такую авечку! — залетуценіў пан. — З ёй не так страшна было б у далёкай дарозе. Прадай яе мне гаспадар!

— Прадаць то можна, — кажа гаспадар, — але мая авечка надта дарагая.

— А колькі хочаш?

— Тысячу рублёў!

Пан не таргаваўся, дастаў з кашалька грошы і заплаціў неадкладна.

Раніцай ён узяў авечку і адправіўся ў дарогу. Ехалі яны доўга ці коратка, а вось і тры ваўкі насустрач ім бягуць, зубы скаляць. Знюхала авечка ваўкоў ды як пачне трэсціся ў санях. А пан кажа свайму фурману:

— Выпусці на іх авечку, бач як яна на ваўкоў раззлавалася! Зараз жа іх тут покатам паложыць!



Ад пачутага фурман сам ледзь са смеху не лопнуў.

— Няхай яна яшчэ больш усхвалюецца, — кажа ён пану, — тады яшчэ больш азвярэе, раз'юшыцца!

Тым часам ваўкі ўжо даганяюць сані.

— Пусці на іх авечку, — крычыць пан, — хай яна ваўкоў перадушыць!

Выпусціў фурман авечку, а тая стралой у лес паімчала. За ёй ваўчыная зграя! А пан вытрашчыў вочы, сядзіць і чакае. Пасля кажа фурману:

— Бяжы ў лес па авечку, а то яна ваўкоў дашчэнту раздзярэ, шкуры на іх пашкодзіць.

Пабег фурман у лес, бачыць, ляжыць разадраная авечка, кроў і костачкі навокал.

Вярнуўся ён і кажа:

— Ну, пан! Якая слаўная твая авечка! Сама сябе разадрала, а ваўкам не здалася!

Усхваляваўся пан і крычыць на фурмана:

— То ж я табе казаў, каб ты раней яе выпусціў! Бач, дурань! Яна так раззлавалася, што са злосці лопнула!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Вершы Віктара Шведа

## Інтэлектуал

Настаўніца спытаць
На ўроку зажадала:
— Каго можам назваць
Інтэлектуалам?

— Гэта грамадзянін, —
Адказаў Валодзя, —
Што ў кніжны магазін
Без дажджу заходзіць.

## Добра жыць у вёсцы

— Ці ведаеш мой Янка
Як добра жыць у вёсцы.
Сяджу я тут ад ранку,
Любуюся палоскай.

— Што робіш вечарамі,
Як цёмная прастора?
— Машыначо з сябрамі
Тады я еду ў горад.

## Што зрабіць?

Спытаў настаўнік у школе:
— Што трэба зрабіць таму,
Каму выпадкова голуб
Напэцкае на галаву?

— Падзякаваць Богу за тое, —
Азваўся малы Станіслаў, —
Што ён ніводнай карове
Крылаў нікол не даў.

## Аптымісты і песімісты

Настаўнік вучня пытае:
— Скажы розніца якая
Паміж аптымістам
І песімістам?

— Аптыміст заўжды бачыць
Свой швейцарскі сыр,
А песіміст - нядачнік
Толькі мноства дзір.

# №4 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 52:

Сняданак, ежа, асоба, вол, кніжка, сліна, аванс, сакратар. Снег, клас, ежа, ніва, мінак, Ада, жанр, каса, ахова, бо, палатка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі *Наталля Лукша, Алек Чарнецкі* з Нараўкі, *Юлія Календа* з Бельска-Падляшскага, *Вікторыя Габец, Адрыян Данілюк, Сільвія Грыка, Габрыела Гойка, Мальвіна Казлоўская* з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Uszka | Niebo | | | | | Oliwa | Rosół | |
| | | | Marek | Etno | Osa | | | |
| Jawa | | Meta / Maska | | | | | | |
| Dużo | | | | | Ar | | Adam | |
| Karnawał | | | | | | | | |
| | | | | | | | | Cha! |
| | Mit / Maskarada | | Frak | | | Ach | | |
| | | | | Temat | | | | |

# Пра беларускага патрыёта Янку Сазановіча і яго аднакласнікаў

На гэтым здымку ад 21 кастрычніка 1932 года бачым вучняў восьмага класа Навагрудскай беларускай гімназіі. У многіх з іх былі трагічныя лёсы. У першым шэрагу ў цэнтры сядзіць Янка Сазановіч. Паводле ўспамінаў яго аднакласніка Уладзіміра Сіўко, ён паходзіў з вёскі Паплавы каля Нягневіч, быў 1914 года нараджэння. У гімназіі яго называлі „гарбаценькі". Быў Янка Сазановіч „вялікім беларускім нацыяналістам", выступаў супраць асаднікаў, з-за чаго, верагодна, меў праблемы з польскімі ўладамі.

У чэрвені 1933 года здалі экзамены і атрымалі матуру 14 гімназістаў: 8 хлопцаў і 6 дзяўчат. Сярод іх быў і Сазановіч. Ён, нібыта, далей вучыўся ў Віленскім універсітэце. Пры „першых саветах" Янку Сазановіча арыштавалі бальшавікі. Сіўко распавядаў, што энкавэдысты „не разбіраліся, яго пасадзілі ў вагон да асаднікаў, і яны яго забілі".

У базе рэпрэсаваных ёсць беларус Іван Сазановіч, 1913 г.н. Яго арыштавалі 26 лістапада 1939 г. у Навагрудскім раёне, дзе ён працаваў настаўнікам. У чэрвені 1940 года, як „сацыяльна небяспечны элемент", асудзілі на 8 гадоў „папраўча-працоўных лагероў". Пра далейшы лёс нічога не паведамляецца. Іван Сазановіч быў рэабілітаваны ў 1988 годзе Гродзенскім абласным судом. Зусім магчыма, што гаворка ідзе пра аднаго і таго ж чалавека.



Янка Сазановіч

***На здымку**: стаяць (злева направа): Міхась Рагуля, Аляксандра Вярбіцкая, Тацяна Лукашык, Янка Цуприк, Аляксандр Гесь, Люся (Алёна) Валынец, Павел Анішчык, Тамара Кур'ян, Янка Курчэйка.*

*У другім шэрагу сядзяць (злева направа): Лявон Чатырка, ?, Астап Русецкі, Ліда Дзіковіч (Дзікавічанка), Міхась Літвін.*

*Сядзяць у першым шэрагу (злева направа): Уладзімір Сіўко, Янка Сазановіч, Уладзімір Гацкі.*



Аднакласнік Сазановіча, Міхась Рагуля, быў сынам сенатара Васіля Рагулі. Падчас нямецкай акупацыі ён быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай партыі, рэдагаваў „Бюлетэнь БНП". Памёр у 2002 годзе ў ЗША.

Пасля вайны ў Беластоку жыла Тацццяна Лукашык. Павел Анішчык быў арыштаваны бальшавікамі і вывезены ў Расію. Там уступіў у армію Андэрса, ваяваў, пасля вайны прыехаў у Польшчу, жыў ва Вроцлаве, даслужыўся да рангі маёра, памёр у канцы 1960-х гадоў.

Лявон Чатырка, сын рэпрэсаванага саветамі настаўніка гімназіі Міхала Чатыркі, падчас вайны служыў у Чырвонай Арміі. Яго, як сапёра-падрыўніка, скінулі з разведгрупай у Беларусь, адкуль яны перайшлі ў Польшчу, ратавалі Кракаў ад знішчэння нацыстамі. Загінуў, як і Міхась Літвін.

Пра лёс Уладзіміра Сіўко, паэта і вайскоўца, „Ніва" ўжо распавядала (2 лістапада 2014 г.).

Чамусьці гэты выпуск гімназіі быў мінімальна асветлены ў кнізе Аляксея Анішчыка (Андрэй Чэмер, *Наваградская беларуская гімназія*, Вільня 1997), а пра некаторых гімназістаў нават няма і згадкі.

Сяргей ЁРШ

Новае выданне

# ТАЙНЫ беларускага золата

*Пра новую кнігу Уладзіміра Хільмановіча*

Так хочацца спадзявацца, што калі кнігу Уладзіміра Хільмановіча „Беларускае золата" прачытаюць „чорныя капальнікі", якія сёння знішчаюць курганныя магільнікі X-XVIII стагоддзяў, архітэктурныя помнікі, магілы, старыя сядзібы, шукаючы скарбаў, спыніцца займацца вандалізмам. Хаця ў гэта мала верыцца. Тым не меней, і розныя бываюць „чорныя капальнікі". А раптам у некага зашчыміць на сэрцы, што ён шкоду робіць нашай роднай зямлі, нашым людзям, нашай гісторыі і зразумее, што золата захоўваецца не ў курганных шматвяковых магільніках, а яно побач — гэта помнікі, рэкі, азёры, людзі, падзеі, перамогі, кнігі, песні, музыка. Вось гэта самае дарагое, бясцэннае наша золата, беларускае золата, якога не мае аніводная краіна свету. І што наша беларускае золата трэба берагчы. І што наша беларускае золата — гэта наш нацыянальны скарб, наша багацце, падораныя нам Богам і лёсам.

„Беларускае золата" Уладзіміра Хільмановіча — выданне даволі арыгінальнае, неабходнае і вельмі цікавае. І будзем спадзявацца, што гэта толькі першая кніга, а з цягам часу напішуцца новыя выданні пра беларускае золата, ахопліваючы шырока яшчэ і Усходнюю Беларусь.

Кніга „Беларускае золата" свет пабачыла ў Беластоку, дзякуючы Радыё Рацыя, на добрай якаснай паперы, са здымкамі аўтара да кожнага артыкула, з шыкоўным дызайнам Адама Паўлоўскага. Сапраўды, вёрстка кнігі мне вельмі спадабалася. За выключэннем хіба размяшчэння загалоўкаў артыкулаў, лепш было б, каб назвы артыкулаў былі змешчаны злева на цотных старонках, тады яны адразу кідаліся б у вочы і чытачам былі б добра бачны. А так — загалоўкі губляюцца ў сярэдзіне кніжкі. Але гэта не такая і вялікая бяда, галоўнае ў кнізе — змест.

Кніга Уладзіміра Хільмановіча складаецца са 120 артыкулаў. Гэта невялікія, але вельмі чытэльныя і кампактныя артыкулы-развагі з гістарычнай і сучаснай афарбоўкай, фактамі і канкрэтнымі прыкладамі. Пісаліся яны аўтарам на працягу больш чым двух гадоў і друкаваліся на старонках „Нівы" і гучалі па Радыё Рацыя.

Распачынаецца кніга артыкулам „Крыж Еўфрасінні Полацкай" і заканчваецца „Плошчай 2010". У першым матэрыяле аўтар мяркуе, што „пакуль арыгінал крыжа Еўфрасінні Полацкай не вернецца на Беларусь, ні даравання, ні любові, ні вольнасці нам не дачакацца... Калі крыж вернецца на радзіму, беларуская гісторыя пойдзе зусім іншым шляхам".

А ў „Плошчы 2010" гучыць надзея-працяг першага артыкула, што „пройдзе больш працяглы час і дата 19.12.2010 стане ў адным шэрагу з 25 Сакавіка, з 27 ліпеня, стане як вяха ў змаганні за нашу дзяржаўнасць, волю, праўду, справядлівасць, адвечнае права людзьмі зваццa, стане асобнай гістарычнай каштоўнасцю нашай краіны".

Магчыма так. Толькі калі знойдзецца і вернецца наш бясцэнны крыж Еўфрасінні Полацкай, які згубіўся ў Другую сусветную вайну?.. Найверагодней, што наша святыня трапіла ў расійскія музейныя сховішчы, а далей, магчыма — у прыватную калекцыю Морганаў у ЗША. Хаця па апошніх інфармацыях СМІ, крыж Еўфрасінні Полацкай у калекцыях Морганаў адсутнічае. Значыць, ён захоўваецца ў адным з музейных сховішчаў у Расіі, куды яго з Магілёва завезлі людзі ў форме НКВД у 1941 годзе.

У артыкуле „Нясвіжская скарбонка" Уладзімір Хільмановіч прыгадвае і 12 апосталаў з золата і серабра, якія былі „вывезены ў французска-расейскую вайну 1812 году". Аўтар кажа, што „жывe і легенда пра тое, што галоўная скарбонка была дзесьці закапана ў ваколіцах". Краязнавец з Нясвіжа Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая (1935-2005) некалі пісала, што Дамінік Радзівіл, які ваяваў на баку Напалеона, аднойчы завітаў у Нясвіжскі замак і загадаў свайму эканому тэрмінова схаваць 12 апосталаў. Слуга выканаў загад князя, скарб хутка схаваў, а падземны ход, які вёў да 12 апосталаў, ён узарваў. Калі ў Нясвіж увайшлі рускія войскі пад кіраўніцтвам Паўла Чычагова, яны вельмі хацелі знайсці скарб з 12 апосталамі. Акупанты схапілі эканома і доўга яго катавалі і дапытвалі, але ён нічога ім не сказаў. Рускія павесілі эканома ў двары замка. А праз пэўны час смяртэльна быў ранены і Дамінік Радзівіл. Так, двух чалавек, якія ведалі пра месцазнаходжанне тайніка, хутка не стала. А 12 залатых апосталаў ужо два стагоддзі ніхто не можа адшукаць, хаця пошукі вядуцца на розных узроўнях. Відаць, час 12 апосталаў, як і час крыжа Еўфрасінні Полацкай, яшчэ да нас не завітаў, бо чужы пакуль час сёння на Беларусі. І толькі тады ўсе нашы скарбы могуць вярнуцца, калі па-сапраўднаму будзе вольнай і незалежнай наша Бацькаўшчына. Уладзімір Хільмановіч шчыра ўспамінае і Клаўдзію Шышыгіну-Патоцкую ў іншым сваім артыкуле „Сонечны Нясвіж".




Але не толькі гэтым золатам багатая наша Айчына. Беларускае золата, як сцвярджае Уладзімір Хільмановіч, гэта і Кушляны Багушэвіча, і свет Янкі Маўра, і шлях Скарыны, і Завоссе Міцкевіча, і каласы Караткевіча, і дом Багдановіча, і Вязынка Купалы, і музей Луцкевіча, і калыханка Бураўкіна, і подзвіг Напалеона Орды, і байкі Крапівы, і Зэльва Геніюшаў, і Лябёдка Іваноўскіх, і феномен Касцюшкі, і сцежкі Ажэшкі, і вежа Гедыміна, і Станькава графа Чапскага, і паэма „Новая зямля". З аўтарам шчыра можна пагадзіцца, што для беларусаў свая ўласная зямля заўсёды была багаццем, заможнасцю і незалежнасцю. У каго было шмат зямлі — той быў багатым чалавекам. Таму і Якуб Колас сваю паэму прысвяціў зямлі. І ўсе мы ў школе вывучалі ягоную „Новую зямлю", і ўсе мы памятаем, хаця б першыя радкі: „Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...". Вялікі твор беларускай літаратуры — золата нашай літаратуры, твор, які заўсёды нас вяртае ў маленства, у школьныя гады, у маладосць, а таксама на радзіму, дзе мы нарадзіліся і дзе адчувалі заўсёды бясклапотнасць і волю.

Наогул, кніга Уладзіміра Хільмановіча „Беларускае золата" — гэта своеасаблівы карысны падручнік для школьнікаў і навучэнцаў. Нават нічога не трэба больш выдумляць, а браць кнігу Хільмановіча і 120 гадзін дзецям распавядаць пра беларускае золата. Распавядаць, дапаўняючы ілюстрацыямі пра тое, што знаходзіцца побач з намі, і пра што мы павінны ведаць, а таксама што і каго шанаваць. А калі са школьнікамі ці з навучэнцамі, ці са студэнтамі абысці ўсе мясціны, пра якія згадвае ў сваёй кнізе аўтар, то можна смела спадзявацца, што маладыя асобы пасля школы ці іншай навучальнай установы пра родную Беларусь будуць ведаць шмат. Таму падобныя выданні павінны выдавацца ў Беларусі вялікімі накладамі і бясплатна распаўсюджвацца па школах. Бо сёння, на жаль, і настаўнікі мала ведаюць Беларусь, многім педагогам абы дзень адбыць у школе. Сёння ў нас мала Белакозаў, Урбановічаў, Жамойдзінаў, Марціноўскіх, Петрыкевічаў, Ракуцяў, Карповічаў, якія ў школах былі апантанымі краязнаўцамі, гісторыкамі і педагогамі, за якімі цягнуліся дзеці, і з якімі было цікава вывучаць не толькі школьныя прадметы, але і родны край.

Чытаючы „Беларускае золата" я заўважыў, што артыкулы ў ім хаатычна чаргуюцца адзін за адным. Пасля крыжа Еўфрасінні Полацкай, Статута Вялікага Княства Літоўскага, рамана „Зорка Венера", шляху Скарыны надрукаваны ў кнізе тэкст пра востраў Чайчын. На маю думку, тэкст пра Чайчын павінен у кнізе знаходзіцца трохі далей ад Полацкай, Статута, Скарыны, а бліжэй да гэтых тэкстаў павінны былі быць надрукаваны артыкулы пра Вострую Браму, вежу Гедыміна, гонар Грунвальду, Полацкую Сафію і г.д. З іх пачыналася наша вялікая Бацькаўшчына, з іх і павінны пачынацца добрыя кнігі, адкуль чытачы сёння працягваюць адкрываць для сябе сапраўдныя старонкі беларускай гісторыі.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Сцяпан КАРБОЎСКІ (19.02.1940 – 19.01.2014)

# Пачаткі жыцця...

Пачаткі майго жыцця звязаны з малым сяльцом Чахі-Забалотныя, якое прысела на выспе, сярод балот і даліны ракі Нурэц. Далёка ад гарадоў і дарожных шляхоў, на ціхім Падляшшы. Тут Другая сусветная вайна акалечыла маё дзяцінства. Старэйшыя мае браты пры „другіх саветах” вучыліся ў пачатковай школе ў Вульцы-Выганоўскай. З таго часу захаваўся лемантар. Бацька заўзята вучыў чытаць паводле лемантара. Запамяталіся да сёння яго тлумачэнні:

— Бачыш гэты значок, падобны на лічбу шэсць? Вось ён, называецца мяккі знак. Ты пражыў ужо шэсць гадоў. Пішы літарамі пяць. Без гэтага значка будзе „пяц” — слова такога няма ў беларускай мове. Альбо другі прыклад, напішы слова піць, як не будзе мяккага знака, будзе „піц”, такога слова таксама няма. Напрыклад вось скажы сказам.

— Я маю пяць гадоў і мне вельмі хочацца піць вады...

— Ужо неўзабаве, праз два гады, будзеш хадзіць у школу, як добра адкажаш настаўніку, ён паставіць табе ў класным журнале „пяць”, будзеш радавацца, а не адкажаш, паставіць „два”, будзеш плакаць і слёзы ліць. Гэтыя словы добра запамятай, сынок.

З лемантара я навучыўся добра чытаць. Бацька, быўшы ў Кляшчэлях на кірмашы, купіў кніжку казак, гэта было маё вялікае свята. У вёсцы школы не было і перад вайною абавязку хадзіць у школу не было. Некаторыя крыху чыталі друкаваныя дзяржаўныя загады. Мой Бацька перад бежанствам у Расію кончыў прыхадскую школу ў Вульцы-Выганоўскай, а ў Растове-на-Доне — гарадское вучылішча, на той час многа ведаў. Там у бежанстве страціў маіх бабулю і дзядулю, на бацькаўшчыну вярнуўся з сястрою Параскаю ў 1923 годзе. У 1924 годзе пасваталі Матулю Ганку, а ў 1925 годзе калыхаў ужо сына Янку...

З аповедаў Бацькі памятаю, што ў пасляваенныя гады многа гаварылі аб правах людзей: раўнапраўі жанчын і мужчын, свабодзе слова і абавязковай усеагульнай асвеце.

За шаленствы мне не раз улятала, Бацька гнуў на левае калена, а правіцаю пускаў рамень у рух на мяккае месца. Але адзін выпадак пакінуў у памяці незвычайнае ўражанне бацькавай ласкі і дабрыні. Надыходзіла вясна. Жылі тады мы ў Паўлінове, у маёнтку пана Пятра Шульца, у бараку-чвараку. На бацькаўшчыне ў час вайны ўсё было спалена. Лічыльнік стукаў, лічыў дні на сёмы гадок. З даху крытага гонтай у поўдзень стукалі кроплі вады, ападалі ледзяшы на зямлю, разбіваліся звонка, быццам шкло. На палях паказаліся ўжо праталіны, сумна чарнеў недалёкі альховы лес. Бацька з Матуляй былі ў Кляшчэлях на кірмашы. Янка з Васем, уладзіўшыся ля парога, каля акна, заўзята будавалі шпакоўні. А я, паставіўшы адзін на другі табурэты, на паліцы за засланкаю знайшоў бляшанку з-пад гарбаты. Адкрыць было цяжкавата, але ўдалося. Там усярэдзіне ў скрутку ляжалі прыгожа разрысаваныя паперкі. Радасны ад цікавай знаходкі, засунуў я іх хуценька за кашулю, паціху вымкнуўся за дзверы, памчаўся да суседа Валодзі. У Валодзі зараз наладзілася цікавая ідэя:

— Я маю нажніцы... Зараз будзем вырэзваць карцінкі і клеіць на акно.

Пры гэтых занятках убачыла нас маці Валодзі, Рая, што ўвайшла з панадворка:

— Што вы тут абодва нарабілі!. Папяровыя грошы парэзалі!.. Ну, Сцяпан, сёння цябе зноў бацька адлупцуе!

Грошы, якія я прынёс, парэзалі мы ўсе на кусочкі, карцінкі з выявай цара Расіі красаваліся на вокнах. Вярнуўшыся з кірмашу Бацька з Матуляю ўбачылі табурэты пастаўленыя адзін на адзін. Бацька заглянуў на паліцу; бляшанка была адкрытая... Спытаўся ў майстроў каля шпакоўняў, дзе я. У адзін голас аказалі:

— Напэўна, пабег да сябры свайго, Валодзі!..

Нечакана ў хаце Раісы з'явіўся Бацька з суворым паглядам у вачах. Ён глянуў на нашу работу і цяжка ўздыхнуў:

— Памятку парэзалі!..

Гэтыя грошы Бацька сцярог як перажытак мінулага часу. Я іх ніколі не бачыў і не ведаў, якую яны мелі каштоўнасць, рэзаўшы іх з Валодзем як звычайную паперу, добра забаўляючыся. Усвядоміўшы сваю віну, я заплакаў. Бацька ўзяў мяне на рукі, панёс дадому. Ідучы пяшчотна гаварыў:

— Сцёпка, скажы толькі праўду: з бляшанкі браў ты жоўценькія кружочкі, ці не?..

— Не-е-е, не-е браў! — заікаючыся праз слёзы адказаў я. Абняўшы Бацьку за шыю, прытуліўся да яго калючай няголенай шчакі. Прасіў: — Татуля, татачка, даруй, больш не буду так рабіць...

— Згода, але і гэтакіх грошай ужо няма, — лагодна сказаў мой Татулька.

Лупцоўкі не было, даравалі, Матуля ласкава прытуляла...

— Памятай, не рабі шкоды ў хаце і па-за домам...

Мой Бацька ніколі не хадзіў у царкву, а калі была дыскусія на тэму рэлігіі, ён рашуча гаварыў:

— Я веру ў Бога, а папам і ксяндзам не веру. У іх жыцці няма Хрыстовай праўды. У бежанстве нагледзеўся, што яны выраблялі; выконвалі прысуды ўласным рукамі. Акрамя таго п'юць самагонку і загольваюць жанчын, як і мы грэшныя.

Матуля не цуралася рэлігіі, хадзіла ў царкву, трымалася абрадаў, пасціла і святкавала. Памятаю, на Пакрову — наш прыход у Вульцы-Выганоўскай, тамака хадзіў я ў пачатковую школу — Маці ўзяла на святкаванні мяне з сабою. У царкве пах гарэўшых свечак, ладану, бляск ікон, дым і мігаценне агню, водбліск панікадзіла, басісты голас святара Аляксандра Самойліка, спеў хору — гэта ўсё ўрэзалася мне ў памяць на ўсё жыццё... Матуля, купіўшы свечкі, уваходзіўшы ў царкву ставіла іх на падсвечніках і перад іконамі — тут заўзята малілася. Я ўслухоўваўся ў яе шэпт і частае дыханне і пачаў разумець, што Матулі жывецца вельмі цяжка, што яна скардзіцца Богу і чакае ад Яго дапамогі...

У царкве сустрэў я знаёмых шпанукоў. Яны запрасілі мяне ў нашу школу, што стаяла праз дарогу, насупраць царквы. Падхмеленыя асобені спявалі на панадворку песеньку: „З віном мы радзілісь, з віном мы памром, з віном нас пахароняць і з п'яным папом...”

Школьны калідор быў напоўнены моладдзю, воблакамі над галовамі плыў тытунёвы дым, на падлозе, пад нагамі трашчала шалупінне сланечніку. З вялікай цяжкасцю я прапхнуўся наперад. Пускалі фільм, у кутку нехта іграў на гармоніку. На экране мітусіліся невядомыя фігуры, людзі стралялі з гармат, гарэлі хаты, лямантавалі жанчыны, здзіралі з духоўнікаў вопратку, траслі за сівыя бароды, пляваліся на іх... Фільм я глядзеў з вялікім захапленнем, першы раз у жыцці, цалкам забыўся пра Матулю і царкву. Толькі тады, як загаласілі званы, прыпомніў. Кругом царквы ішоў хрэсны ход, наперадзе з крыжамі і харугвамі, за імі дванаццаць святароў, спяваў хор, на кіvotах абразы неслі маладыя дзяўчаты з кожнага прыхадскога сяла. За імі, быццам рака, калыхаўся тлум прыхаджан. Праз нейкі час з цяжкасцю ў гэтым жывым патоку прыхаджан і запрошаных гасцей я знайшоў Матулю. Яна шэптам размаўляла з напатканымі гасцямі. Па трохразавым абыходзе працэсіі кругом царквы іконы і харугвы ўнеслі ў храм. Святары сталі ля сходаў, а адзін з іх, у пазалочанай шапцы, выступіў перад людзьмі:

— Прыхаджане, маем цяжкія хвіліны нашага жыцця, трэба важыць кожнае сказанае і напісанае слова, мець вочы і вушы адкрытымі, не сунуцца ў непатрэбныя справы. Трэба дружна хадзіць у царкву, маліцца... Бог выслухае нашы просьбы і дапаможа нам усё гэта перамагчы.... Жадаю ўсім здароўя і цярплівасці, да спаткання ў наступным годзе..

Людзі ціхенька цалавалі крыжы ў руках святароў, ахіналіся знакам крыжа і адыходзілі. Расплываліся дарогамі ў свае вёскі, адны пехатою, іншыя на жалезных вазах ламаталі аж вушы закладала, над дарогамі падымаўся пыл з сухой зямлі, чутна было конскае іржанне. З неба, праз перыстыя аблокі, пагладала на гэта ўсё асеннее сонейка. Маці кіравала канём дэрэшам, пугаю заахвочвала яго да бегу, у адказ ён круціў хвастом і крыху хутчэй варушыўся. У Маскаўцах на вуліцы тоўпіліся сяляне, у клуні Міхася Дмітрука гудзела малатарня, маладыя хлопцы з чырвонымі павязкамі на левых рукавах кіравалі рухам. На канцы сяла Маці спыніла каня, каб распытацца, што робіцца ў вёсцы. Знаёмыя адказалі:

— Не хацеў ісці ў калгас, вось сёння яго за гэта раскулачваюць.

Па дарозе мяне сароміла Матуля:

— Я цябе ў царкву ўзяла, каб ты Богу памаліўся, а ты што зрабіў, да д'яблаў нячыстых пайшоў... Пакарае цябе Бог за гэта нейкай хваробай альбо іншым другім няшчасцем...

— Усіх Ён пакарае, хто быў на калідоры ў школе? — пытаўся я з сумам.

— Усіх пакарае, абавязкова — усіх! Але не ўсіх адразу, не ў адным часе бязбожнікам Бог не даруе, у адпаведную хвіліну гэта зробіць. Бойся Бога, сынок, бойся...

— Мама, скажы мне... А гэтых, што сёння малоцяць і раскулачваюць Міхася, бацьку майго сардэчнага сябры, таксама пакарае?..

— Сынок, памятай, не будзе злітавання ўсім тым, што робяць крыўду іншым людзям — ад пакарання яны не ўцякуць...

Убачыўшы на маім твары і ў вачах раскаянне, Маці далей навучала:

— Бог, Ён як бацька добры: карае непаслухмяных дзяцей для іх дабра, каб зразумелі свае памылкі, Ён карае таму, што іх любіць, і хоча дабра, і паважання.. Але некаторыя дзеці далей астаюцца непаслухмянымі, не зважаючы на пакаранні, Бацька гэта робіць пакуль мае сілу і цярплівасць. Пакідаюць такія дзеці бацькоў і адыходзяць на сваё неспрактыкаванае жыццё. А Бог заўсёды мае цярплівасць і сілу, і міласць... Вось і ты маліся Богу, Ён змілуецца і даруе твой сённяшні грэх.

— А якімі словамі трэба маліцца, мама?

— Трэба маліцца наступнымі словамі: „Отчэ наш, іжэ есі на небесі...”

— А што значыць, „іжэ есі”, мама?

— Гэтага я не ведаю, ведае напэўна святар...

— А чаму ты ў яго не спыталася?

— Ці ўсе людзі могуць ведаць усё і пра ўсё?..

Навука кончылася, дэраш з бегу перайшоў на трух, уехалі ў сяло. Мітусіліся на вуліцы дзеці, гаспадары сустракалі запрошаных гасцей. Бацька адчыніў уязныя вароты, праз некалькі хвілін на панадворак заехалі госці: сястра Матулі Маруся з мужам Матвеем, Мартынюкі з дачкою Ганнай з Градалёў, сястра Бацькі Тэкля з мужам Пятром, Цары з сынамі Аляксеем і Язэпам з Мокрага. Усе прывіталіся, расцалаваліся, сыпнулі цукерак мне ў кішэні, пераважна модных „рачкоў”... Дзядзька Пятро быў высокага росту, лысы, з рыжымі вусамі і разумнымі вачыма. Матвей быў нізкі, каранасты, з галавой пахіленай уперад, з кучаравымі светлымі валасамі, з-пад якіх тырчалі адстаючыя вушы. Хата выглядала на часовае збудаванне, аддаленая ад вуліцы, каб тамака можна было пабудаваць ужо сапраўдную. Госці гаварылі, што лепей такая на месцы, чым там сядзець на чужбіне (у Паўлінове). У той час, як вялася гутарка на панадворку, Матуля накрыла стол; духмяны хлеб, пірагі, вараная і печаная бараніна і свініна, квашаныя агуркі, тушаная капуста з мясам і верашчака (дробна кроеная бараніна з расолам з яе, цыбуля, часнок, перац, соль). Кожнаму відэлец і лыжка. На сярэдзіне стала, быццам „небаскроб”, літровая бутэлька, накрытая кілішкам, моцнай сівякокай самагонкі. На загад дзядзькі Пятра ўсе прысутныя сталі тварамі да іконы, сказалі малітву „Отча наш”, ахінуліся знакам крыжа. Паселі вакол стала на лавах, пачаўся абед. Бацькі я ніколі не бачыў п'яным, піў ён малымі глыткамі, гасцей любіў частаваць і сардэчна запрашаў. Дзядзька Матвей вёў сябе ціха, але сівы напой хутка яго мяняў. Неасцярожнае слова любога госця або гаспадара выклікала ў ім гнеў. Пачынаў чапляцца, сварыцца. Праз акно Маці заўважыла, што ў хату з вуліцы ідзе Міхась Самко, солтыс, мясцовы актывіст партыйнай ячэйкі.

— Хто гэта за асобень? — спытаўся дзядзька Пятро, падкруціў вусы і загадаў хатнім і гасцям захаваць асцярожнасць. — Вось і няпрошаны госць у хаце.

— Запрашаем за стол нечаканага госця... — сказала Матуля.

Паводле мясцовай традыцыі, спозненым альбо няпрошаным гасцям налівалі штрафную чарку гарэлцы, у ліку трох штук. Міхась, каўтануўшы свой штраф, закусіў квашаным агурочкам, у руку ўзяў кавалак авечай лапаткі ды пачаў агітацыйную прамову:

— Паводле патрэбы сучаснай сітуацыі, я, як прадстаўнік мясцовага актыву, хаджу ад гаспадара да гаспадара з прапановай наладзіць у вёсцы калгас. Будзем добра жыць і лягчэй працаваць, будуць машыны. А калі хто не захоча ўступіць — пайсці новаю дарогаю, сустрэнецца з праблемаю і акцыяй, якая праводзіцца сёння ў суседнім сяле, ехаўшы з царквы напэўна бачылі вы і чулі... Найбольш упартых адправім у астрог. Гэта пачаткі, гэта яшчэ толькі паказуха...

— Добра гаворыш, даражэнькі, за такую прамову выпі яшчэ, — ласкава прыкінуўся цяляткам Пятро, наліў адну і другую чарку госцю, сардэчна... Папрасіў Міхася на сярэдзіну сталовай... З-за стала высунуліся Матвей і рэшта мужыкоў. Дыскусія на тэму калгаснага дабрабыту працягвалася далей. Бацька хуценька паціхеньку прынёс з сенцаў вяроўку. Матвей, убачыўшы Бацьку з вяроўкай, зайшоў ззаду, хапіў аратара, працiснуў да сябе, а той пачаў клікаць паратунку.

— Ганна, хутка давай ручнік! — падаў загад Пятро, заткнуў горла актывісту... — Павал, нясі шнур, лаву рыхтуйце!..

Дружна паклалі вярбоўшчыка на лаву. Ён плакаў, біўся галавою, паказваў вялікую сілу. Каб прывязаць яго да лавы, спатрэбілася многа сілы і ўпору. Лаву з Міхасём паклалі на падлогу, каб не паабіваўся, падаючы...

— Добрая і чыстая работа, няхай будзе што будзе, але далей сёння не пойдзе і не будзе муціць людзям у галовах калгасным дабрабытам! — сказаў Бацька і сардэчна запрасіў усіх за стол. Усеўшыся за сталом, дзядзька Пятро пры нагодзе адкрыў думку вершам:

*У калгас дарога проста,*
*Із калгаса — касяком.*
*У калгасе па дарозе*
*Дзеці бегаюць басяком...*

Кульнуўшы па некалькі глыткоў гарэлцы, паводле сваіх магчымасцей, брат Янка запрасіў маладых гасцей на гулянку. На гармоніку іграў падвыпіўшы Карп, на скрыпцы Васілёў Лявон сухаватага выгляду з усмешкай на твары, у бубен лупіў яго брат Валодзька. На абочыне месца для танцаў пачалі спяваць дзяўчаты з хлопцамі, ацiхла музыка. Пляцоўку асвятлялі кволымі агеньчыкамі два нафтавыя фанары, навокал была ціхая восеньская цемрадзь, у вокнах мігацелі газоўкі.

Павал завёў гутарку з гасцямі аб сплючым на падлозе прававедніку новай жыццёвай дарогі:

— Трэба нешта з ім зрабіць, каб не было вялікага клопату, бо могуць закінуць у астрог, цяпер дастаткова цёмна...

Па сталовай нервова хадзіў Пятро, цярэбячы буйныя вусы, раптоўна спыніўся:

— Маю добрую прапанову, але трэба ўсім трымаць язык за зубамі, і то абавязкова доўга, найважнейшае, каб аб гэтым не даведаўся твой нашчадак-карапуз, — кінуў майму Бацьку.

— Няма яго дома, напэўна памчаўся на забаву, хутка не вернецца.

— Гэта добры момант. Давайце радзюжкі, завесім вокны! Ты, Павал, ідзі на панадворак, упэўніцца трэба, ці нікога блізка няма, хуценька вяртайся.

— Цішыня навокал, толькі чуваць, як музыка іграе, — паведаміў гаспадар.

— Ну, вось цяпер трэба ўзяць госця з лаваю, асцярожна, каб не разбудзіць, занесці за суседаву клуню. Там яго развяжам і пакінем, хай спакойна цверазее...

Як гаварылі, так і зрабілі, лаву прынеслі пустую. Я, вяртаючыся дахаты, убачыў цёмныя вокны, але ўслухаўшыся зразумеў, што яшчэ не спяць, гамоняць. Дзверы былі зачынены, адчыніла іх Маці, хуценька завяла на запечак і ўлажыла спаць на рускую печку. Дзядзька Пятро, спазнаўшы сібірскія прасторы ў гады бежанства, завёў сваю любімую песню: „По тихим степям Забайкалья, где золото роют в горах, бродяга, судьбу проклиная, тащился с сумой на плечах”.

Я пакуль не спаў, выглядваў з-за печы, углядаўся ў шырока адкрыты рот, у якім не бачыў зубоў; можа, іх закрывалі вусы... Дзядзька Матвей сядзеў за сталом, ківаў галавою і глядзеў мутнымі вачыма на кволы агеньчык пяцілінейнай лямпы.

На досвітку Матуля разбудзіла мяне, госці развіталіся з сямейнікамі, жадаючы ўзаемна здароўя і сустрэчы праз год, Бацька заглянуў за суседаву клуню. Начлежніка там ужо не было...

Нанова пачынаўся дзень, мірнае, працавітае жыццё сялян. Тысяча дзевяцьсот пяцьдзясят першы год.

# Міністэрскае вызначанне беларушчыны — дапаўненне

Ужо пасля нашай ранейшай публікацыі «Міністэрскае вызначэнне беларушчыны» («Ніва» № 2 ад 11.01. 2015 г.), прысвечанай адмове датацыі фонду «Віла Сакрата» Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі на арганізацыю ў гэтым годзе XVI Трыялогаў у Крынках, атрымалі мы адказ ад міністэрства на нашы дадатковыя пытанні, якія тычацца сур'ёзных сумненняў, калі справа ідзе пра міністэрскае абгрунтаванне адмоўнага рашэння. У тым ліку мы распытвалі, якія запісы ў заяве Фонду былі несумяшчальнымі з мэтамі закона аб меншасцях, якая павінна быць сіла, ступень уплыву задання на асобы, якія належаць да меншасцей, як разумець паняцце нізкай эфектыўнасці задачы — спадзяваных эфектаў у параўнанні з бюджэтам выдаткаў, значыць, аб якой эфектыўнасці гаворка і якія меры эфектыўнасці прымаюць чыноўнікі, якія разглядаюць заявы на атрыманне міністэрскай датацыі ў рамках выканання гэтых задач. Ва ўступе напісанага Артур Казёлак, прэс-сакратар МАіЛ, пасля кансультацыі са службовымі асобамі адказнымі за прынянцце адмоўнага рашэння, заявіў: «У адпаведнасці з крытэрыямі, выкладзенымі ў інфармацыі аб канкрэтных правілах працэдуры выдзялення датацый для рэалізацыі задач у мэтах абароны, захавання і развіцця культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей ды захавання і развіцця рэгіянальнай мовы, датацыі могуць быць выдзелены толькі на задачы, якія служаць для абароны, захавання і развіцця культурнай самабытнасці меншасцей (...). Ні агульная тэма сімпозіума, ні выбар удзельнікаў не паказваюць на тое, што рэалізацыя задач спрыяе захаванню культурнай самабытнасці беларускай меншасці». Далей, сярод іншага, падкрэслена: «пры падтрымцы за кошт бюджэту заданні павінны мець значнае ўздзеянне на асобы, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей, дапамагаючы ім захаваць сваю ідэнтычнасць і мову. Прапанаваная да выканання пастаўленая задача не абяцае, што дапаможа ў захаванні самабытнасці і мовы асоб, якія належаць да беларускай меншасці. Эфекты задач, якія падтрымліваюцца МАіЛ, залежаць ад прыроды гэтых задач. У выніку гэтага семінара можа быць, напрыклад, прасоўванне беларускай мовы і культуры сярод людзей, якія належаць да меншасці. Пры малых эфектах і высокім кошце, эфектыўнасці задачы будуць малыя. У адваротным выпадку, чым большыя эфекты і выдаткі зніжаюцца — таксама павышаецца эфектыўнасць».

У адносна шырокім адказе згадваецца таксама аб дванаццаці сумненнях, якія выклікала заява Фонду і пра тлумачэнне якіх была просьба (аб большасці з іх напісаў я ў тэксце два тыдні таму). Прыгадаем, што міністэрства звярнулася, каб падумаць аб змене рэдакцыі тэмы «Тутэйшыя» планаваных Трыялогаў «так, каб яна ясна паказала важнасць гэтага паняцця для культурнай самабытнасці беларускай меншасці» і ўключыць кароткае апісанне прапановы адназначна «абгрунтоўваючае важнасць тэмы для падтрымання і развіцця культурнай самабытнасці беларускай меншасці ў Польшчы». Як мы ўжо згадвалі, Фонд адмовіўся карэктаваць заяўку і папрасіў разгледзець яе ў раней прадстаўленай форме. У адказ на нашыя пытанні міністэрства ў гэтым кантэксце на канец заявіла: «Няма ніякага спосабу, каб падтрымаць гэты праект міністэрствам».

Між тым, гэтаму пытанню свой артыкул прысвяціла таксама штодзённа «Gazeta Wyborcza». Гжэгаж Дамброўскі, галоўны рэдактар яе беластоцкага дадатку, напісаў: „Такі падыход чыноўнікаў ад адміністрацыі і лічбавізацыі гэта вызначэнне меншасцей шляхам спіхвання іх у гета. Акрамя таго, у гета закрытае для падзей, якія выходзяць за рамкі схемы. І, калі ласка, не думайце, што я супраць фэстаў або іншых мерапрыемстваў, арганізаваных меншасцямі. Не. Павінна быць іх як мага больш. Гэта соль нашай зямлі. Але не павінна быць згоды, каб пастароннія асобы, якія не маюць ні найменшага паняцця аб прыродзе і ідэі незалежных падзей, умешваліся са сваёй праграмай і адбірам запрошаных гасцей. Чыноўніцкія «конскія кляпкі» шкодзяць не толькі беларускай культуры, але больш за ўсё польскай. Культуры, якую на працягу стагоддзяў сумесна стваралі, у прыватнасці, на нашай тэрыторыі, многія народы. Народы, для якіх асабліва ў цяперашні час становіцца важным сказ Ежы Гедройца: «Палякі — гэта жудасны народ. Мабыць, кожны народ жахлівы, але палякі характарызуюцца пэўнай слабасцю характару і неадукаванай адміністрацыяй...».

Усё паказвае на тое, што, нягледзячы на адсутнасць датацыі МАіЛ, XVI Трыялогі ў апошнія выходныя дні жніўня, нягледзячы на ўсё, усё-такі адбудуцца.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ




# www.bielanohaja.by

Развіццё творчасці таго ці іншага музыкі немагчымае без развіцця сваёй самапрэзентацыі. І гэта зразумела — творчы чалавек з гадамі сталее, пачынае больш адчуваць сваю публіку, яе патрэбы, ну а попыт нараджае прапанову.

Роўна сем гадоў таму, у студзені 2008 года, „Ніва" пісала пра сайт беларускай спявачкі Таццяны Беланогай. З таго часу збегла нямала вады, шмат песень было спета і Таццяна стала больш дасведчанай у прадстаўленні сябе і сваёй творчасці існым і патэнцыйным прыхільнікам. Сведчаннем гэтаму ёсць сайт спявачкі, які цяпер месціцца па адрасе **www.bielanohaja.by**. Размяшчэнне на беларускім дамене ўжо само па сабе прыдае нейкую больш сур'ёзную вагу сайту, які хоць і застаецца, па ўсім відаць, аматарскім. Нагадаю, мінулы сайт Беланогай знаходзіўся на дамене .org.

Акрамя таго спявачка ўжо не піша пра свой сайт, што ён — афіцыйны. На новым сайце больш прывабныя і пяшчотныя словы, пададзеныя як дэвіз — „Музыка, лірыка, акорды". Там жа, уверсе цэлага выяўлення, знаходзіцца і фотаздымак спявачкі, які, як і на папяраднім сайце, перадае яе задуменнасць, рамантычнасць.

Новы сайт Таццяны Беланогай таксама больш насычаны інфармацыяй. Так, на ім месціцца значна больш рубрык. А гэта — акрамя „Галоўнай" — „Біяграфія", „Навіны", „Галерэя", „Альбомы", „Відэа", „Прэса", „Набыць дыскі" і „Кантакты".

„Таццяна Беланогая. Бард-спявачка. Нарадзілася ў Мінску. Аўтарка альбомаў „Дзвюхкроп'е" і „Ніткі". Падарожжы, жыццёвыя і творчыя, Таццяны Беланогай пачаліся з маладзечанскай камуналкі, дзе поруч жылі песні Высоцкага і Башлачова. Па дарозе назапасіла ўласныя перажыванні і сабрала вершы сугучных ёй паэтаў: Яўгеніі Янішчыц, Іосіфа Бродскага, Чэслава Мілаша і сястры, Марыі Беланогай. А яшчэ ездзіць з выступамі па Беларусі, Польшчы і Нямеччыне. Так і блукае Беланогая паміж паэтычнымі пунктамі А, Б і В, расказвае пра нябачныя сувязі паміж людзьмі ў сям'і, краіне, свеце", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. Там жа змешчаны здымкі спявачкі, якая, акрамя выдатных вакальных даных, мае яшчэ і натуральную жаночую прыгажосць, якая бярэ наведвальніка сайта ў палон і прымушае прагледзець усе старонкі віртуальнага прадстаўніцтва Таццяны Беланогай.

Больш пазнаёміцца з ёй можна на старонцы „Біяграфія", якая насамрэч з'яўляецца яе аўтабіяграфіяй. Там спявачка піша, што яшчэ ў час вучобы ва ўніверсітэце пачала займацца бардаўскай песняй. Сярод сваіх заслуг Таццяна згадвае перамогу ў конкурсе „Бардаўская восень" у Бельску-Падляшскім (2004) і перамогу ў конкурсе ОРРА-2006 у Варшаве (2007).

Пра творчасць Беланогай, якая, дарэчы, суцэльна з'яўляецца беларускамоўнай, з уласных слоў спявачкі можна даведацца, зайшоўшы на старонку „Навіны", якая, праўда, ужо некалькі месяцаў не абнаўляецца. Тым не менш там месціцца яе інтэрв'ю, дадзенае Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны, адкуль да таго-сяго варта прыслухоўвацца кожнаму з нас. „Для мяне беларуская мова — гэта спосаб разумення сябе і людзей навокал", — кажа Таццяна. Яна ўпэўненая, што тыя, хто валодаюць беларускім словам, „ведаюць, што мова — гэта рэлігія, псіхалогія, характар, мараль, дух. І наша задача — раскрыць і паказаць прыгажосць роднага слова".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Дзеяч беларускага пратэстанцтва

# 110 гадоў з дня нараджэння Яна Пятроўскага




Рэлігійны дзеяч, літаратар, выдавец, руплівец беларускай эміграцыі Ян Пятроўскі нарадзіўся 20 студзеня (паводле іншых звестак 25 студзеня) 1905 г. у Слуцку. Паходзіў з беларускай праваслаўнай сям'і Дзям'яна і Юстыны Пятроўскіх. Бацька вельмі рана памёр, у маці на руках засталося ажно восем дзяцей. Ян Пятроўскі навучаўся ў школе праваслаўнага Свята-Троіцкага манастыра, пасля ў царкоўнапрыходскай школе. Сям'я пераехала ў Вільню, там Пятроўскі ў 1919 г. скончыў гімназію. Пасля службы ў Войску Польскім, скончыў школу падхаружых.

У 1920-я гг. Ян Пятроўскі актыўна ўключыўся ў беларускі грамадска-культурны рух Заходняй Беларусі. Падтрымліваў кантакты з навучэнцамі Віленскай беларускай гімназіі. Быў прыхільнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, быў добра знаёмы з многімі тагачаснымі культурнымі дзеячамі Заходняй Беларусі. Пэўны час меў намер выехаць у БССР, але, на яго шчасце, перадумаў.

У канцы 1920-х гг. трапіў на беларускамоўнае набажэнства метадысцкай царквы, што і прадвызначыла далейшы лёс — Ян Пятроўскі стаў сябрам пратэстанцкага брацтва. Скончыў біблійную школу метадыстаў у Клярысэве пад Варшавай. З 1932 г. жыў і працаваў у мястэчку Дзярэчын (цяпер у Зэльвенскім раёне). З 1935 г. быў выдаўцом і галоўным рэдактарам беларускамоўнага пратэстанцкага грамадска-рэлігійнага і літаратурнага часопіса „Сьветач Хрыстсовае навукі". Напісаў і выдаў брашуру „Нядзельная школа, яе сутнасьць і гісторыя" (1937).

У час Другой сусветнай вайны Ян Пятроўскі кіраваў групай беларускіх перакладчыкаў, якая працавала ў Берліне пры выдавецтве Міністэрства прапаганды Трэцяга Рэйха. З-за гэтага ён больш ніколі не мог прыехаць на радзіму ў Беларусь. Апрацаваў супольна з Аляксандрам Калошам і Васілём Камароўскім „Нямецка-беларускі слоўнік", у якім было сабрана 27 тысяч слоў. Праца гэта, аднак, не была выдадзена.

У 1944 г. Пятроўскі выехаў у Аўстрыю, а адтуль у 1953 г. — у ЗША, дзе жыў усё астатняе жыццё. У эміграцыі ўзначальваў выданне евангельска-баптысцкага часопіса „Сьветач Хрыстовае навукі". У 1976 г. разам з жонкай Аліцыяй (з якой меў двух сыноў — Джорджа і Гэры) у горадзе Гейнсвіл (штат Фларыда) заснаваў Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд з мэтай дапамогі беларусазнаўчым даследаванням і публікацыі матэрыялаў на беларускую тэматыку. Пятроўскі стаў адным з пачынальнікаў беларускага евангельска-баптысцкага руху ў ЗША.

Памёр Ян Пятроўскі амаль у дзень нараджэння — 19 студзеня 2001 г. у Гейнсвіле, пражыўшы 96 гадоў. Творчую спадчыну Пятроўскага складаюць 7 выдадзеных тамоў выбраных твораў старажытнагрэчаскага філосафа Платона, класічны „Грэцка-беларускі слоўнік", „Ангельска-беларускі слоўнік" (частка першая, 1946), беларускія пераклады Марка Аўрэлія, Карла Вільгельма фон Гумбальдта. Ён быў таксама першым перакладчыкам на беларускую мову „Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" (1975). Пакінуў Пятроўскі і мемуары, якія выйшлі ў трох тамах у Гейнсвіле цягам 1988-1997 гадоў. Адно з першых беларускамоўных выданняў Евангелля, якое трапіла да нас у дзевяностых гадах ужо мінулага стагоддзя, было якраз „Эвангеле паводле Сьв. Яна" перакладу менавіта Яна Пятроўскага.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

РАЦЫЯ
БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ

# Шчодры вечар з «Рацыяй»

Студзень у праваслаўных — самы багаты традыцыйнымі святамі месяц. Пачынаецца ён 6 студзеня з Куцці, затым адзначаем тры дні Божага Нараджэння (7-9), Шчодры вечар (Гагатуха) — 13, а 14 — Новы год (паводле юліянскага календара) і канчаецца Трыма каралямі (Вадохрышчам) 19-21 студзеня. Па сённяшні дзень у маёй памяці захоўваюцца цудоўныя абрады гэтага перыяду: рыхтаванне куцці, упрыгожванне ёлкі, калядаванне з гвяздай, дзявочае варажэнне і фокусы на Гагатуху перад Новым годам ды асвячэнне вады на рэчцы, якое здзяйсняецца 19 студзеня ў дзень Богаяўлення. У гэты дзень я адзначаю свой дзень нараджэння. Таму сябрукі звыклі жартаваць пры застоллі, што адзначаем чатырох каралёў.

З ходам гадоў многае перамянілася. Каляднікаў зараз няшмат. Калісьці, прыпамінаю з дзяцінства, у Кузаве калядавалі малечы і дарослыя, свае і чужыя. Гэтых апошніх больш прымалі. З асаблівай павагай кузаўцы ставіліся да каляднікаў, якія калядавалі для патрэб царквы. Вуліца бурліла дзіцячымі галасамі. Здалёк было чуваць: «Можам калядаваць?». Каляднікі ўперамешку, свае і чужыя, ганяліся адны перад другімі, каб больш зарабіць. Найбольш калядоўшчыкаў прыкмячалася на першы дзень свята. Сёлета ў Кузаве калядавалі мясцовыя жанчыны на царкву. Прыкмеціў я яшчэ чатырох каляднікаў з гвяздай і некалькі груп без гвязды. І гэта ўсё. Як сказаў мне Валодзя Данілюк, у Малінніках і Грэдалях таксама не бачыў ён калядоўшчыкаў. Традыцыя калядавання, значыцца, знікае. У нябыт адышлі «пшэбераньцы» (камедыянты), якія на Гагатуху віншавалі гаспадароў з Новым годам. Калі хтосьці не запрашаў іх у дом, дык казалі:

*Гоготуха гоготала, ныгдэ кішкі не достала, як достала, то і з'ела, под окенком напірдела...*

У Шчодры вечар адмысловай стравай была «кашанка». Калі забівалі вепрука пад свята, дык кроў злівалі ў слоі. Садэлка — так кузаўцы называюць унутранае сала — пяклі на хрусткія скваркі і захоўвалі ў паліваных гаршках. Затым ужывалі іх да кішкі. Паколькі ў Кузаве зямля пясчаная, дык засявалі яе грэчкай. Таму кузаўцаў называлі «грэчкасеямі». На Гагатуху абавязкова мусіла быць кішка з грэчкай і крывёю. Пяклі яе ў бляшках, у якіх выпякалі аржаны хлеб у вялікай печы. Гэтая традыцыя захавалася ў Кузаве па сённяшні дзень. Мяне заўжды на крывянку запрашаў сардэчны калега Міхась Бішчук, сын майго хрышчонага бацькі. А смакоцце рыхтавала ягоная жонка Марыся. Яшчэ да нядаўна на Гагатуху сустракаўся я на кватэры ў Міхася з Пятром Саласцюком ды Мікалаем Пытлем. Адышлі яны ў вечны спачын. Засталіся мы з Міхасём. Па-даўнейшаму Марыся пячэ на Гагатуху грачаную кішку, а Міхась запрашае мяне пакаштаваць гэтую смачную страву. Сёлета я занядужаў і Шчодры вечар правёў у адзіноце, слухаючы канцэрт пажаданняў па Радыё Рацыя. У час перадачы слухаў успаміны слухачоў, якія расказвалі як даўней адзначалі Шчодры вечар і якія стравы рыхтавалі ў іхніх вёсках. І перад вачыма паўстаў успамін з маёй маладосці. Таму рашыўся падзяліцца гэтым з чытачамі, паколькі не змог дазваніцца на радыё.

Калісьці ў Кузаве Шчодры вечар быў багаты ў гульні і забавы. Каб хлопцы не ведалі, дзяўчаты збіраліся патаемна ў адной з сяброўак і варажылі. Напрыклад, перакідалі боты праз хату. У які бок бот павярнуўся наском, з таго боку меў прыйсці жаніх. Іншай была гульня ў пару і лішку. Дзяўчаты выбягалі на панадворак і падаваліся да кавалера на загуменне. Бралі аберуч з-пад дашка парубаныя дровы і лічылі іх. Калі лічба аказвалася парнай, значыцца дзяўчына выйдзе замуж... Хлопцы ў гэты час займаліся фокусамі. Самым папулярным было скіданне з завесаў брамак. Знятыя фортачкі, як і ўязныя брамы, заносілі неаднойчы ў адлеглыя закавулкі. Гаспадар траціў некалькі ладных гадзін, каб іх адшукаць. Іншым фокусам было зацягванне санак (або пярэдняй часткі воза з коламі) на дах дома, замалёўванне вокнаў вадкасцю (у нас вапну мяшалі з попелам, што давала цёмны колер). Памятаю як кампанія Олі Саласцюк замалявала вокны дома сяброўкі Веры Маркевіч. Бацька сяброўкі, Аляксандр, які выходзіў з Елянкі, не спяшаўся ўставаць, паколькі ў хаце было цёмна. А калі ўрэшце выйшаў з хаты, тады пабачыў, што сонца ўжо да поўдня падыходзіць. А тут шыбы замаляваныя. Раззлаваўся і пачаў шукаць віноўнікаў. Таямніцу выявіў яму вартаўнік вясковай варты, які быў навочным сведкам фокуса. Аляксандр паехаў у Кляшчэлі ў школу, дзе вучылася Оля Саласцюк, і паскардзіўся дырэктару. Гэтая атрымала выгавар. Папулярным фокусам кузаўскіх кавалераў было прыкрыванне кавалкам шыбы коміна на даху. Раніцай гаспадыня распальвала печку, а тут поўная хата дыму. Ніхто з дамачадцаў не ведаў прычыны. Пасля выяўлялася, што гэта навагодні фокус кавалераў. А такія «жарты» рабілі хлопцы там, дзе знаходзіліся паненкі...

Я слухаў навагодні канцэрт па заяўках па Радыё Рацыя да гадзіны 0:45. Пасля лёг адпачываць. Шкада, што не дазваніўся, і не змог быць субяседнікам для вядучых праграму. Але святочныя пажаданні ў падзяцы за цудоўную перадачу журналістам Радыё Рацыя і ніўскім калегам па пяру паслаў па скайпе.

Уладзімір СІДАРУК

# Нараўчанская дэмаграфія на мінусе

З кожным годам у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета меншае лік жыхароў у сярэднім на 15-20 чалавек. Зараз у гміне пастаянна пражывае 3 826 чалавек у 42 мясцовасцях. Найбольшай вёскай была і надалей з'яўляецца Нараўка, якая цяпер налічвае 912 жыхароў. У гміне ёсць іншыя вялікія вёскі. У Семяноўцы пражывае 409 асоб, у Старым Ляўкове — 338, у Новым Ляўкове — 215, у Скупаве — 192, у Міклашэве — 176, у Плянце — 154, у Лешуках і ў Тарнаполі — па 123, у Альхоўцы — 108, у Ахрымах — 97 і ў Свінароях — 91 жыхар. Паменшала жыхароў у Нараўцы, Плянце, Лешуках, Альхоўцы, Ахрымах і Свінароях.

Значна ніжэй сотні налічваюць вёскі Заблотчына — 70, Стачок — 67, Старое Масева — 66, Гушчэвіна — 57, Міхнаўка — 56, Баб'я Гара — 52, Лесна — 51, Янова — 46, Новая Лука — 41, Новае Масева і Падляўкова — па 36, Гарадзіска — 32, Грушкі — 31, Капітаншчына і Пасекі — па 30 ды Слабодка і Мінкоўка — па 21. Прыбыло жыхароў у Заблотчыне, Стачку, Старым Масеве, Новай Луцэ, Падляўкове і Гарадзіску.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына — 17 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Новіны і Парослае — па 13, Заблады і Церамкі — па 9, Замошша — 7, Баравыя і Ланчына — па 6 ды ўсяго двух жыхароў мае Гнілец.

У 2014 годзе ў Нараўчанскай гміне ў ЗАГСе зарэгістравалі 20 шлюбаў, нарадзілася 25 дзяцей ды памерла ажно 75 чалавек (!). Жыхароў у стогадовым узросце няма.

(яц)

# Адгаданка

1. культавая забарона, 2. недахоп, нястача, 3. пачатак біцця, напрыклад бубной, 4. насціл з бярвення для праезду па гразкім месцы, 5. пакрыўка з тканіны або іншага матэрыялу для прыкрыцця прадмета, напрыклад ад дажджу, 6. Нэлі, беларуская гімнастка, алімпійская чэмпіёнка 1976 і 1980 гг., 7. галоўная святыня Меккі, 8. бізун з дробных раменьчыкаў, 9. Галакціён, грузінскі паэт (1892-1959), 10. возера ў Канадзе на поўначы правінцый Альберта і Саскачэван, 11. савецкі земляроб.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | |
| | 2 | | | | | | | |
| | | | | 3 | 4 | | | |
| | 5 | 6 | | | | 7 | | |
| | | | | 8 | | | | |
| 9 | | | | 10 | | | 11 | |
| | | | | | | | | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Зебу, лоцыя, Троя, урок, цечка.

Рашэнне: **Язык у роце як чорт у балоце**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 25.01 — 31.01

**(22.03. — 20.04.)** Пачуццё стабільнасці, бяспекі, прытым і свабоды. Засяродзься на планах і рашэннях на год. Будзеш мець касмічны прыліў сіл і энергіі. Справішся з усім, з чым дагэтуль не даваў рады. Магчымая прапанова змены працы ці павышэння кваліфікацый.

**(21.04. — 21.05.)** Да 27.01. зрэалізуеш усе свае справы, пахваляць цябе. Але з 28-31.01. можа трэба будзе адмяніць мерапрыемствы. З партнёрам высветлі непаразуменні, знайдзі аргументы; ачысціце атмасферу. Дома дробныя сюрпрызы; на момант можаш страціць кантроль над некаторымі справамі (не панікуй!). Блізкім дазволь на незалежнасць, давярай ім. Зычлівасць прынясе прыязнасць і задавальненне.

**(22.05. — 22.06.)** Падумай аб супольным выездзе — здалёк ад дому маеце шанцы на вялікі перапом у адносінах. Не бойся вяртацца да тэм, якія цябе турбуюць, размаўляй. Праўда, можа дайсці да вострага абмену думкамі, але лепш не змоўчваць. Вельмі дбай аб горла і галасавыя звязкі.

**(23.06. — 23.07.)** Добры час на змену месца пражывання, заплануй выезд ці перасяленне. На новым месцы здарыцца штосьці, што трывала, на лепшае зменіць тваё жыццё. Прапанова ўдзелу ў цікавым праекце, бярыся за гэта, пойдзе гэта табе к дабру. Але не паддавайся націскам. Не трáць здароўя на справы, якія могуць пачакаць. А 26-30.01. будуць правакаваць цябе да змагання ў справе, якая цябе не мусіць займаць.

**(24.07. — 23.08.)** У пачуццях і сувязях слухайся ў свае думкі. Хаця да 27.01. старайся ісці на кампраміс. Адстрэсоўвайся ў большай кампаніі. Больш варушыся. На лепшую зменіцца аўра на працы. Але 27-31.01. цяжка будзе дагаварыцца, не падпісвай дамоў.

**(24.08. — 23.09.)** Каб пазбегчы спрэчак і непаразуменняў, шчыра паразмаўляйце, не спрачайцеся за драбязу. Атрымаеш прапанову рабіць штосьці зусім новае. Але не дай сябе пераканаць да чагосьці некарыснага для цябе; глядзі што падпісваеш. Вельмі дбай аб свой імунітэт, не прабывай у холадзе, на ветры, не плавай цяпер у басейне. Еж рыбу і марскія прадукты, адмоўся ад смажаніны і капусных. Абследуй арганізм, асабліва калі нараікаеш на пячонку і шчытавідку.

**(24.09. — 23.10.)** Мілыя рандэву асабліва да 27.01. Але не давярай салодкім слоўцам. Гуляй на ўсю катушку з сябрамі, але не дай сябе падмовіць да рызыкоўнай здзелкі ці бравады. Памажы камусьці патрабуючаму з далёкай сям'і. Задбай аб свой выгляд і гардэроб. Хаця 28-31.01. магчымыя фінансавыя праблемы.

**(24.10. — 22.11.)** 28-31.01. будзеш напоўнены разумнымі задумамі, ахвотай дзейнічаць і ахвотай на вялікую прыгоду. Ажыццяўляй новыя праекты, рабі далёкія планы. Хатніх спраў не замятай пад дыван. Наведай даўно не бачаных сваякоў. Трымай свае эмоцыі ў руках. Не ангажуйся ў турботы сяброў. Ненайлепшы настрой, магчымы кашаль, насмарк, болі галавы, пазваночніка, каленяў — скантралюйся ў доктара, парабі абследаванні, рэабілітуйся.

**(23.11. — 22.12.)** Добра ў сямейных адносінах, памірыш іншых, сарганізуй прыём. Схадзі да лекара, абследуй свой шкілет, узмацні арганізм, рэабілітуйся. На працы рабі памаленьку, ды дакладна; лепш сам. Паявіцца шанц на дадатковы заробак, хоць не такі лёгкі, але гэты занятак добра будзе бачыцца ў будучыні.

**(23.12. — 20.01.)** Не адмаўляй нікому падтрымкі. Калі сам не дасі рады гэтага ахапіць, знайдзі кагосьці іншага, бо можа стацца штосьці незваротнае, і будзеш вінаваціць сябе. Не ўсе планы ўдадуцца, дык спакойна адчакай. Падмацуй свой арганізм ачышчальнымі і ўзмацняльнымі тэрапіямі. Моцна хвораму Казярогу папрáвіцца здароўе.

**(21.01. — 19.02.)** Маеш на каго разлічваць. Цёпла апранайся, але не адмаўляйся ад шпацыраў. Калі дакучаюць табе болі ў вантробах, схадзі да лекара. Вельмі пільнуй кашалька і банкавых карт, уцякай ад круцялёў і нахабных аквізітараў. 28-31.01. будзеш прыгнечаны, не ўсё ўдасца ў асабістых адносінах; магчымыя прыкрыя весткі аб кімсьці, каму ты дасюль давяраў.

**(20.02. — 21.03.)** 24-26.01. добра дагаворышся з дзецьмі і каханай асобай, шчасце ў замежных падарожжах, мілы адпачынак з раднёй. Расстанне амаль без болю. Спрыянне ў прафесійных ходах, дакажаш, што ты знакаміты стратэг, хаця не ўсе супрацоўнікі будуць у энтузіязме да тваіх змен і схочуць падзейнічаць на тваю шкоду. Захавай асцярожнасць у фінансах.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Крыху пра Забужжа

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1883 года інфармаваў: „Konstantynów, parafia rytu łacińskiego Janów, rytu greckiego Konstantynów, odległy 7 wiorst od Janowa, leży na wzgórzu przy trakcie wojennym z Warszawy do Brześcia prowadzącym. Posiada cerkiew murowaną parafialną; drewniana pierwotna istniała w Kozieradach już w XV w., obecnie prawosławna. Ludności 1590, w tem żydów 910. Miejscowość ta dawniej zwała się Kozierady. Około r. 1744 Karol Józef hr. Odrowąż Sedlnicki, podskarbi w. k., do którego majętność ta należała, od imienia żony swojej Konstancyi nazwał Kozierady Konstantynowem. Sedlnicki K[onstantynów] zrobił miasteczkiem, uzyskał przywileje na jarmarki, sprowadził rozmaitych rzemieślników, pobudował pałac obszerny dla siebie i założył przy nim park angielski".

Міхал Балінскі ў сваёй „Гісторыі Польшчы" з 1840 года дадаў, што згаданы шчодры інвестар „zostawił skarb publiczny nader zadłużony, a majątek jego nie wystarczał na pokrycie długów". Але мясцовасць з паркам асталася, захавалася таксама новая яе назва. Зараз перад уваходам у той парк стаіць стэнд, на якім падаецца агульная гісторыя Канстантынава. Няма там згадкі ні пра царкву, ні пра яўрэяў. А ж стагоддзем таму яны складалі большасць насельніцтва мястэчка. Яўрэйская энцыклапедыя з 1908-1913 гг. інфармавала „По перериси 1897 г. жит. 1147, изъ коихъ 1027 евр.". Дынаміка яўрэйскай прысутнасці ў Канстантынаве была даволі кіпучай; як падае партал Штэтл, у 1890 годзе складалі яны 57%, у 1909 г. — 85%, а ў 1921 годзе — 77% насельніцтва мястэчка.

Ды не выпадае забываць і пра тамашнюю царкву; інтэрнэтны даведнік: „Pierwsza cerkiew prawosławna funkcjonowała w Konstantynowie (ówcześnie Kozieradach) od XV stulecia. Nową świątynię tego wyznania wzniesiono w miejscowości w 1576 z fundacji Pawła Bogusza Bogowitinowicza. Najpóźniej w 1726 parafia kozieradzka przyjęła unię. W 1833 dotychczasowy obiekt zastąpiła murowana cerkiew Narodzenia Najświętszej Maryi Panny, wyposażona w organy. W 1875 unicka parafia w Konstantynowie została, podczas likwidacji unickiej diecezji chełmskiej, zlikwidowana, zaś jej wierni włączeni do Rosyjskiego Kościoła Prawosławnego. W 1919, mimo obecności ludności prawosławnej w Konstantynowie, budynek cerkwi przejął Kościół katolicki. Następnie nowi właściciele przekazali obiekt gminie z przeznaczeniem na siedmioklasową szkołę".

Ды і ў гэтым даведніку сёе-тое падмецена пад дыван. А менавіта ва ўладаннях тамашняга прыхода адбыўся своеасаблівы Страшны суд... Інфармацыя мельніцкага суда з 1580 года: „Bojarzyn putny Wojciech Mikołajewicz uskarżał się na popa ruskiego kozieradzkiego Andrzeja o to, iż on najechawszy z dwoma synami swymi i dwoma najmitami do domu jego samego, żonę jego Zofię i dwoje dzieci chłopiąt małych niewinnie zbił, zranił, a płoty i koły ogrodu jego posiekał i popsuł. I gdyby na ten czas nie trafił się tam i jego nie ratował pan Stanisław Poniatowski, wtedy by go był ten pop zabił, który na dom jego z rusznic strzelał". Сведкі сведчылі, што бачылі „samego Wojciecha zbitego, zranionego, także i żonę jego zbitą bardzo i leżącą z tego zbicia, na której ran sinych spuchłych na plecach i rękach jej niemało. I dwoje synów zbitych zranionych, z których jeden chłopiec na imię Jurek bardzo raniony leży i nie wiadomo czy będzie żył, na którego ciele rana jedna krwawa bardzo szkodliwa, a u drugiego chłopca na plecach i rękach jego rany sine".



Фрагмент праваслаўных могілак у Канстантынаве



Царква ў Носаве

У царскі час існаваў Канстантынаўскі павет; Геаграфічны слоўнік: „Powiat konstantynowski gub. siedleckiej powstał w r. 1867 z dawnego pow. bialskiego, którego mniej więcej połowę stanowi. Zarząd powiatowy mieści się w osadzie Janów, konstantynowskim zaś powiat nazwany od osady K[onstantynów], a to dla odróżnienia od pow. janowskiego w gub. lubelskiej. Ludność z końcem 1879 r. wynosiła 53590, która, rozdzielona na narodowości, tak się przedstawia: rosyan 83, rusinów 29912, polaków 16951, żydów 6057, cudzoziemców 587".

Сучасныя даведнікі інфармуюць пра больш новыя славутасці мясцовасці: „W latach 1907-1909 wzniesiono tu kościół parafialny pw. św. Elżbiety Węgierskiej w stylu neogotyckim, pierwszy w miejscowości, gdyż do tej pory istniała tu tylko cerkiew". Святая Альжбета, венгерская каралева, была цёткай сілезскай княгіні, святой Ядвігі: „Według podań Jadwiga była osobą posiadającą cechę wielkiej skromności, a jednocześnie bardzo zaangażowaną w swoje działanie. Cechy te ilustruje legenda, według której Jadwiga, aby nie odróżniać się od reszty swego ludu oraz w imię pokory i skromności, chodziła boso. Irytowało to bardzo jej męża, wymógł więc na spowiedniku, aby ten nakazał jej noszenie butów. Duchowny podarował swej penitentce parę butów i poprosił, aby zawsze je nosiła. Księżna, będąc posłuszną swojemu spowiednikowi, podarowane buty nosiła ze sobą, ale przywieszone na sznurku". Сынам святой Ядвігі быў сілезскі князь Генрык Пабожны, які ў 1241 годзе загінуў у бітве з татарамі пад Легніцай...

І яшчэ адна важная цікавінка: у міжваенны час Канстантынаў наведаў маршалак Юзаф Пілсудскі. У гонар гэтай падзеі быў там пастаўлены помнік маршалку, які немцы ў 1939 годзе знішчылі; помнік адбудаваны ў 1995 годзе.

За мястэчкам, зараз за расходнымі дарогамі ў напрамку Белай-Падляшскай і Ласіц, упрытык да шашы ў апошнюю мясцовасць распаложаны старыя могілкі. Абгароджаны яны ажурным бетонным плотам. Паколькі гэты від агароджы з'явіўся ў нас адносна нядаўна, дык і трэба меркаваць, што і могілкі абгароджаны нядаўна. Гэта колішнія праваслаўныя могілкі, на якіх не хаваюць нябожчыкаў ад стагоддзя, значыць з таго часу, калі мясцовыя праваслаўныя падаліся ў бежанства або ў іншыя бакі свету, або ў іншыя канфесійныя наміналы.

Перад расходнымі дарогамі ў Ласіцы і Лясную-Падляшскую абагнаў мяне трактар. Калі ён быў ужо каля сотні метраў перада мною, нешта лопнула і трактар раптоўна з'ехаў на левы бок шашы — лопнула камера ў пярэднім левым коле трактара. Калі б з супрацьлеглага боку спяшала нейкая машына, магло б здарыцца няшчасце. Часта выпадковасць вырашае, што нешта здарыцца, або не здарыцца. Паколькі ў трактары не возяць запасных колаў, павалокся ён далей на раздушаным башмаку.

На расходных дарогах два паказальнікі ў Лясную: адзін устаноўлены дарожнымі службамі паказвае дзевяць кіламетраў адлегласці, а другі, устаноўлены краязнаўчымі службамі — сем кіламетраў. Абодва паказальнікі падаюць адлегласць у той самы пункт — у пляц перад санктуарыем. Нечаму, аднак, там дзівавацца — адна з гэтых адлегласцей з'яўляецца звычайным неабходным санктуарыю цудам. Я, аднак, не кіраваўся ў ляснянскі санктуарый — тры кіламетры да Лясной распаложана вёска Носава...

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1886 года: „Nosów, wieś i folwark nad rz. Kamionką, parafia rytu łacińskiego Bordziłówka, rytu greckiego Nosów, odl. 14 wiorst od Konstantynowa. Posiada cerkiew parafialną drewnianą, istniejącą już w r. 1585, z filią Bukowiec; ludność 420 (rusini)". У Носаве захавалася праваслаўная царква, існуе там і прыход. Зайшоў я туды акурат у юліянскі Новы год, паціху спадзеючыся на магчымае набажэнства. Аднак з маіх спадзяванняў нічога не атрымалася, бо і лік вернікаў тамашняга прыхода невялічкі.

Інтэрнэтны даведнік: „Pierwsze informacje o cerkwi prawosławnej w Nosowie pochodzą z 1585. Według innego źródła świątynia powstała wcześniej, jeszcze przed 1542. W 1596, po zawarciu unii brzeskiej, cała eparchia chełmska (do której należała świątynia nosowska) przeszła do Kościoła unickiego. W 1862 Józef Wężyk, miejscowy dziedzic, ufundował obiekt istniejący do dnia dzisiejszego — pierwszą murowaną świątynię w tej miejscowości. W 1872 świątynia należała do parafii liczącej 1072 wiernych. Cerkiew ponownie przeszła we władanie parafii prawosławnej wskutek likwidacji unickiej diecezji chełmskiej w 1875. W 1915 duchowieństwo cerkwi nosowskiej i 50% parafian zostało ewakuowanych do Moskwy i Kijowa (bieżeństwo). Cerkiew w Nosowie została zamknięta po wywózkach ludności ukraińskiej do ZSRR i po Akcji „Wisła". Reaktywowana po powrocie części wiernych do Nosowa i okolic. W 1991 obiekt został gruntownie odnowiony". Ёсць яшчэ і прыхадскі даведнік, але ў ім ні слова пра носаўскую царкву, у ім толькі апісанне лляснянскага санктуарыя, яго ўніяцка-праваслаўна-каталіцкага мінулага.

Заглянуў я на могілкі, што зараз за царквою. Заўважыў я там адну магілу з 2003 года, некалькі з 1970-х, некалькі сучасных намагільнікаў тым нябожчыкам, якія адышлі ў лепшы свет у перыяд апошняй вайны. А ўсе апошнія магілы запушчаныя...

У паўночным канцы Носава дворскі комплекс, галоўны будынак якога ўзведзены ў канцы 19. стагоддзя. Аднак маёнтак мае больш даўнюю гісторыю; вось грамата караля Жыгімонта І Старога з 1516 года: „Биль нам чоломь дворянинь нашь князь Василей Иванович Пузына, и поведиль передь нами, ижь какь неприятель нашь Московский замокь нашь Смоленскь и именья ихъ отчизны забраль, и просиль насъ абыхмо ему дали дворь нашь Носово вь Мельницкомь повете. Ино мы з ласки нашое за его кь намь верную службу на его чоломбитье то вчинили, тоть дворь нашь Носово в Мельницкомь повете ему дали".

Даведнік пра Вялікае Княства Літоўскае: „Пузыны, княжацкі род герба „Брама" („Агінец"). Вядуць радавод ад Рурыкавічаў, з 16. ст. выводзілі сябе ад чарнігаўскіх князёў, уладальнікаў г. Казельск каля Калугі, аднак дакументальна гэта не пацверджана. Родапачынальнік Васіль Глушонак выслужыў у вял. кн. Казіміра землі на Смаленшчыне, у пач. 1480-х перайшоў да вял. князя маскоўскага Івана ІІІ. Яго нашчадкі засталіся ў ВКЛ". Пра ягонага сына: „Іван Васілевіч (мянушкі Глазыніч, Пузынін). У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1492-94 перайшоў да Івана ІІІ. Яго сыны Міхаіл, Дзмітрый, Іван, Леў, Андрэй, Юрый засталіся ў ВКЛ". І далей: „Іван Іванавіч, сын Івана Васілевіча. За страчаныя ў час войнаў з Маскоўскай дзяржавай землі на Смаленшчыне атрымаў у 1514 ад вял. кн. Жыгімонта І Старога маёнтак Носава ў Мельніцкім пав.". Значыць Носава было своеасаблівай кампенсацыяй за тадышняе *mienie zabużańskie*... Як пісаў калісь мудры цар Саламон — што было, тое і ёсць, тое і будзе, і нічога новага няма пад сонцам.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

ISSN 0546-1960